● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

14 сакавіка 1998 г. субота №№ 58 — 59 (23409 — 23410)





# ЗВЯЗДА

## ЗВАРОТ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДА ГРАМАДЗЯН КРАІНЫ З НАГОДЫ ДНЯ КАНСТЫТУЦЫІ

Паважаныя грамадзяне Рэспублікі Беларусь! Дарагія суайчыннікі!

Сардэчна віншую вас з Днём Канстытуцыі.

Прыняты народам Беларусі Асноўны закон краіны мае вышэйшую ступень легітымнасці, з'яўляецца гарантам стабільнасці і дэмакратычных свабод беларускага грамадства, складае аснову суверэнітэту і незалежнасці нашай маладой дзяржавы.

У абноўленай на ўсенародным рэферэндуме 24 лістапада 1996 года Канстытуцыі краіны атрымалі развіццё асноўныя прынцыповыя палажэнні, якія вызначаюць сацыяльна-эканамічны фундамент нашай дзяржаўнасці. Яе стрыжнем стала абарона рэальных правоў і свабод грамадзян. Усе галіны дзяржаўнай улады цяпер дзейнічаюць узгоднена і дынамічна, забяспечваючы поўную рэалізацыю канстытуцыйных гарантый.

Дзеючая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь абагульніла лепшы сусветны вопыт і адлюстравала спецыфіку нацыянальнага дзяржаўнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця.

Жыццё пацвярджае правільнасць праведзеных канстытуцыйных пераўтварэнняў. На іх аснове адбываецца карэннае абнаўленне дзеючага заканадаўства. Больш эфектыўна сталі дзейнічаць органы дзяржаўнага кіравання ўсіх узроўняў. Атрымалі развіццё грамадзянскія інстытуты беларускага грамадства.

У дэмакратычным канстытуцыйным полі свабодна развіваюцца і дзейнічаюць палітычныя і грамадскія аб'яднанні, у тым ліку і апазіцыйныя, супастаўляюцца розныя погляды, фарміруецца спрыяльная абстаноўка сацыяльнай салідарнасці і нацыянальнай згоды.

Самаадданая, творчая праца беларускага народа забяспечвае спрыяльныя ўмовы для ўстойлівага эканамічнага росту, уздыму дабрабыту і духоўнай культуры грамадства.

Сёння наша мэта — захаваць і прымножыць усё тое, што было створана многімі пакаленнямі, перадаць усё лепшае нашым дзецям і ўнукам.

Будзем жа, дарагія суграмадзяне, няспынна працаваць, умацоўваць сваю суверэнную дзяржаву, дабівацца росквіту нашай цудоўнай Беларусі.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**



### *ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...*

## ... У МАГАЗІНАХ ДАРАЖЭЮЦЬ ПРАДУКТЫ

**Пасля скачка цэн на Камароўцы, якая, як вядома, заўсёды першай рэагуе на павялічэнне курса долара ўзняццем цэн на прадукты, многія з трывогай чакаюць таго ж самага і ад дзяржгандлю. Пабегаўшы па гандлёвых кропках сталіцы, карэспандэнт газеты сведчыць, што пакуль ніякіх асаблівых зрухаў там не назіраецца.**

Вобразна кажучы, калі рынкі ўжо паспелі, дык дзяржгандаль яшчэ не змог: цэны на прадукты ў крамах зараз практычна зраўняліся з цэнамі на Камароўцы і іншых міні-рынках горада. Больш таго, пэўную прадукцыю зараз можна набыць нават па меншай цане. Напрыклад, пачак расійскага маргарыну ў гандлі каштуе пакуль 13,5 тысячы рублёў, на рынку -- 14,5--15 тысяч, падобная ж сітуацыя і з маянэзам. Звычайна цэны на гэтыя прадукты ў дзяржгандлі вышэй за рынкавыя на некалькі тысяч рублёў. Прыкладна, як і на Камароўцы, каштуе самае лепшае мяса -- кілаграм кумпяка ў крамах ідзе за тыя ж 150 тысяч рублёў.

Калі дзе і ёсць змяненні цэн, дык яны пакуль нязначныя, накшталт падаражання куфля піва на 100 рублёў. Новымі цэннікамі пакуль красамоўна «зіхацяць» толькі алкагольныя напоі: бутэлька 0,5 літра «Белай Русі» -- 70.200--70.300, «Крышталь-люкс» -- 70.400 рублёў (вінтавыя бутэлькі), «Руская» -- 64.700 рублёў (каньячная бутэлька) і г. д. На гэтым фоне прывабнымі выглядаюць цэны на каляровыя напоі: брэндзі, пэўныя бальзамы, настойкі (44--48 тысячы рублёў за бутэльку). Як сведчыць жыццё, неўзабаве абавязкова павінна падаражаць і гэтая прадукцыя.

Як прызнаюць самі прадаўцы, падаражанне будзе, і закране яно шэраг відаў харчавання. Праўда, пакуль ніхто не ведае памераў будучых цэнавых узрушэнняў...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*Не трэба роспачы, ганіце прэч заўчасную журбу — вясна абавязкова ўсталюецца. Чакаць ужо нядоўга — магчыма, толькі сённяшнюю завею. Так бывае і ў нашым жыцці: вось-вось надыйдзе светлае, вось-вось згіне абрыдлае... Ізноў аснежыць, ізноў скуе...*

*Не губляйце надзею, нездарма ж мы так шчыра гукалі вясну.*

*Саступяць завеі.*

*Прыйдзе лепшы час. Дачакайце вясну.*

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

(Матэрыялы аб снежнай стыхіі чытайце на 8-й стар.)



Вясна прыйшла — зіма вярнулася...

## ПАВЕДАМЛЕННЕ АДМІНІСТРАЦЫІ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Завяршыўся афіцыйны візіт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі ў Ісламскую Рэспубліку Іран і Сірыйскую Арабскую Рэспубліку.

У ходзе візіту падпісаны важныя пагадненні па далейшаму развіццю палітычных, эканамічных, культурных сувязяў, якія зробяць пазітыўны ўплыў на станаўленне эканомікі Рэспублікі Беларусь, павышэнне жыццёвага ўзроўню грамадзян нашай краіны.

Рэалізацыя дасягнутых дамоўленасцяў, далейшае ўдасканаленне народнагаспадарчага комплексу, умацаванне дзяржаўнай дысцыпліны і правапарадку сталі прадметам прынцыповай размовы кіраўніка дзяржавы пасля яго вяртання ў Мінск з вышэйшымі службовымі асобамі Рэспублікі Беларусь.

Дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Шэйман В.У. далажыў прэзідэнту краіны аб рабоце праваахоўнай сістэмы і сілавых структур, стане барацьбы са злачыннасцю і аховы грамадскага парадку. Асаблівая ўвага была ўдзелена становішчу спраў у Міністэрстве ўнутраных спраў і Міністэрстве абароны.

В.У.Шэйман праінфармаваў кіраўніка дзяржавы аб сітуацыі, якая склалася на валютным рынку краіны і выклікана рэзкім зніжэннем курса нацыянальнай грашовай адзінкі.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь даручыў дзяржаўнаму сакратару Савета бяспекі сумесна з Камітэтам дзяржкантролю, Нацыянальным банкам і Камітэтам дзяржбяспекі вывучыць прычыны ўзнікшага становішча і прапанаваць канкрэтныя меры па забеспячэнню стабільнасці ў валютна-фінансавай сферы.

Прэзідэнт краіны даручыў таксама дзяржаўнаму сакратару з прыцягненнем спецыялістаў Камітэта дзяржкантролю і Міністэрства ўнутраных спраў, Дзяржкамітэта пагранвойскаў і Дзяржаўнага мытнага камітэта, іншых міністэрстваў і ведамстваў разабрацца з вывазам з рэспублікі прадуктаў харчавання і іншых тавараў народнага спажывання і ўнесці прапановы, якія забяспечылі б навядзенне належнага парадку ў гэтых пытаннях.

Прынцыповая размова аб становішчы спраў на валютна-фінансавым рынку краіны была прадоўжана з кіраўніком Адміністрацыі Прэзідэнта М. У. Мясніковічам. Кіраўнік дзяржавы крайне нездавальняюча ацаніў работу Нацыянальнага банка па выкананню даручэнняў, накіраваных на стабілізацыю нацыянальнай валюты.

Па выніках праведзенай размовы прэзідэнт даў даручэнне М.У.Мясніковічу тэрмінова прадставіць вычарпальныя матэрыялы аб прычынах рэзкага зніжэння рубля, аб дзейнасці банкаўскіх структур і фінансавых кампаній. Прэзідэнт не выключае сур'ёзных кадравых перастановак у кіраўніцтве Нацбанка і іншых банкаў, якія дапусцілі дэстабілізацыю ў валютнай сферы краіны. Кіраўнік дзяржавы мае намер заслухаць справаздачы адпаведных асоб, якія адказваюць за правядзенне валютна-крэдытнай палітыкі.

А.Р.Лукашэнка занепакоены тым, што развязаная расійскімі сродкамі масавай інфармацыі кампанія па дыскрэдытацыі ўнутранай і знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь сур'ёзна ўскладняе расійска-беларускія адносіны. Вытрыманыя ў зневажальных тонах публікацыі ў газетах «Известия» і «Новые известия», каментары ГРТ і НТБ не атрымліваюць прынцыповай ацэнкі расійскага кіраўніцтва. Гэта дае падставы для высновы аб тым, што серыя недружалюбных у адносінах да Беларусі публікацый і перадач ажыццяўляецца з адабрэння афіцыяльных колаў. Прадаўжэнне расійскімі сродкамі масавай інфармацыі такой беспрэцэдэнтнай для дружалюбных дзяржаў практыкі становіцца сур'ёзнай перашкодай на шляху станаўлення Саюза Беларусі і Расіі.

Адміністрацыі Прэзідэнта даручана таксама зрабіць больш жорсткімі патрабаванні да кіруючых кадраў, узмацніць кантроль за выкананнем даручэнняў, дадзеных кіраўніком дзяржавы. Прэзідэнт звярнуў увагу М.У.Мясніковіча на неабходнасць удасканалення работы з кіраўнікамі міністэрстваў і ведамстваў, органаў мясцовай улады і сродкаў масавай інфармацыі.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р. Лукашэнка заслухаў інфармацыю Старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю М.Ф. Дамашкевіча аб мерах, што прымаюцца аблвыканкамамі, Мінгандлем, Белкаапсаюзам, іншымі рэспубліканскімі і мясцовымі органамі па нармалізацыі гандлю прадуктамі харчавання, таварамі народнага спажывання ў сувязі с маючым месца вывазам для перапродажу іх у вялікіх колькасцях за межы Рэспублікі Беларусь камерцыйнымі структурамі, грамадзянамі Рэспублікі Беларусь і жыхарамі іншых краін СНД. Прэзідэнту краіны далажана аб існуючых пасрэдніцкіх структурах-«кармушках», выяўленых у выніку кантрольных мерапрыемстваў Камітэта дзяржаўнага кантролю, якім у рабоце на сябе актыўна садзейнічаюць некаторыя кіраўнікі Мінгандлю. Прэзідэнт краіны А.Р. Лукашэнка паўтарыў свае патрабаванні старанна разабрацца, прыняць вычарпальныя меры і далажыць.

Прэзідэнт краіны выказаў занепакоенасць ростам цэн на прадукты харчавання, даручыў вызначыць меры адказнасці асобных рэспубліканскіх і мясцовых кіруючых кадраў за непрыняцце мер па недапушчэнню несанкцыяніраванага вывазу з рэспублікі прадуктаў харчавання, нярэдка пад выглядам бартэру, разлікаў за энерганосьбіты і па заніжаных цэнах.

Прапановы па навядзенню парадку ў гэтых пытаннях Камітэт дзяржаўнага кантролю павінен прадставіць прэзідэнту краіны ў бліжэйшы час.

А.Р.Лукашэнка абавязаў М.Ф.Дамашкевіча вывучыць работу дзяржструктур, банкаў, кіруючых кадраў усіх узроўняў па знешнеэканамічнай дзейнасці, валютнаму рэгуляванню, вяртанню ў краіну валюты за экспартуемую прадукцыю.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**



## КІРАЎНІК БЕЛАРУСКАГА ЎРАДА І СТАРШЫНЯ ЦЭНТРАБАНКА РАСІІ АБМЕРКАВАЛІ ШЛЯХІ ЗБЛІЖЭННЯ ГРАШОВА-ВАЛЮТНАЙ ПАЛІТЫКІ ДЗВЮХ КРАІН

Прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг сустрэўся са старшынёй Цэнтральнага банка Расійскай Федэрацыі Сяргеем Дубініным. Перагаворы адбыліся 13 сакавіка ў Маскве. У іх прынялі ўдзел паўнамоцны прадстаўнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у органах інтэграцыі нашай краіны Васіль Далгалёў, міністр эканомікі Уладзімір Шымаў, старшыня праўлення Нацыянальнага банка Генадзь Алейнікаў. У ходзе сустрэчы абмяркоўваліся актуальныя пытанні грашова-валютнай палітыкі дзвюх краін, вялася размова і аб курсах валют.

У інтэрв'ю беларускім журналістам Сяргей Дубінін адзначыў, што "аб'яднанне эканамічнага жыцця Беларусі і Расіі — асноўная мэта, да якой неабходна паэтапна ісці наперад».

**Дзмітрый ФЁДАРАЎ, БЕЛТА.**

## ПАВЕДАМЛЕННЕ Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь пацвердзіў сваю ўстаноўку на ўсямернае заахвочванне экспарту, але не на шкоду ўнутранаму спажывецкаму рынку краіны. Камітэту дзяржкантролю неабходна далажыць аб ходзе выканання ўрадам, аблвыканкамамі і міністэрствамі даручэння прэзідэнта аб дадатковым экспарце прадукцыі на льготных умовах пры павелічэнні аб'ёмаў вытворчасці да ўзроўню 1997 года.

У гутарцы з міністрам замежных спраў І.І. Антановічам Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь адзначыў узмацненне дэзінфармацыі адносна рэальнага становішча спраў у Беларусі ў сродках масавай інфармацыі, асабліва расійскіх, а таксама адкрытай хлусні і паклёпу асабіста на Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, фальсіфікацыі яго рэальных палітычных мэтаў і намераў.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь даручыў Міністэрству замежных спраў у рабоце з замежнымі журналістамі і электроннымі СМІ, акрэдытаванымі ў Мінску, больш поўна інфармаваць іх аб рэальным становішчы спраў у Рэспубліцы Беларусь, палітыцы прэзідэнта, а таксама даваць адпор паклёпнікам, якія імкнуцца зняславіць палітыку Беларусі, перашкодзіць нармальнаму развіццю саюзніцкіх адносінаў з Расіяй, адносінаў добрасуседства і дружбы з іншымі дзяржавамі рэгіёну.

У мэтах выканання даручэння прэзідэнта ў І.І.Антановіча адбылася размова з міністрам замежных спраў Расійскай Федэрацыі Я.М.Прымаковым адносна больш адэкватнага інфармавання ўрада саюзных дзяржаў — Расіі і Беларусі, сродкаў масавай інфармацыі, дзяржаўных і грамадскіх арганізацый аб рэальным становішчы спраў у абедзвюх краінах. Размова будзе прадоўжана ў ходзе ўзаемных кансультацый паміж двума міністрамі, якія адбудуцца ў канцы сакавіка — пачатку красавіка г.г.

Сур'ёзная прынцыповая размова кіраўніка дзяржавы з вышэйшымі службовымі асобамі Рэспублікі Беларусь, рэалізацыя пастаўленых задач і даручэнняў, безумоўна, паслужыць умацаванню народнагаспадарчага комплексу краіны і навядзенню належнага парадку.

Гэтыя даручэнні знаходзяцца пад асабістым кантролем прэзідэнта краіны А.Р.Лукашэнкі.

## ДЛЯ БОЛЬШ ПОЎНАЙ АБАРОНЫ ПРАВОЎ І СВАБОД ГРАМАДЗЯН ПАВІНЕН БЫЦЬ АКТЫВІЗАВАНЫ КАНСТЫТУЦЫЙНЫ КАНТРОЛЬ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка 13 сакавіка 1998 года прыняў старшыню Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь Р.А. Васілевіча, паведаміла прэс-служба кіраўніка беларускай дзяржавы.

Р.А.Васілевіч праінфармаваў кіраўніка дзяржавы аб прынятым Канстытуцыйным судом пасланні «Аб стане канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь у 1997 годзе».

Абмеркаваны пытанні, звязаныя з умацаваннем і актывізацыяй канстытуцыйнага кантролю ў Рэспубліцы Беларусь з мэтай больш поўнай абароны правоў і свабод грамадзян. У прыватнасці, гэта ўвядзенне папярэдняга канстытуцыйнага кантролю законаў, што прадстаўляюцца на подпіс прэзідэнту краіны, увядзенне інстытута канстытуцыйнай скаргі грамадзян, надзяленне Генеральнага пракурора правам унясення прапаноў у Канстытуцыйны суд аб праверцы канстытуцыйнасці нарматыўных актаў. Адзначалася неабходнасць выканання судамі артыкула 112 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

У ходзе сустрэчы разглядаліся і іншыя пытанні, звязаныя з ажыццяўленнем канстытуцыйнага кантролю ў Рэспубліцы Беларусь.

**БЕЛТА.**

# ТОЛЬКІ НАРОД МОЖА ВЫРАШЫЦЬ, ПА ЯКОМУ ЗАКОНУ ЯМУ ЖЫЦЬ

**Выступленне Старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу П. У. ШЫПУКА на ўрачыстым сходзе, прысвечаным Дню Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь**

Дарагія суайчыннікі!

У апошнія два дзесяцігоддзі Рэспубліка Беларусь прайшла ў сваім канстытуцыйным развіцці значны шлях. Яна набыла каштоўны вопыт канстытуцыйна-прававога вырашэння асноватворных пытанняў дзяржаўнага будаўніцтва. Важнейшыя вехі на гэтым шляху — Канстытуцыя Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі 1978 года і Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі, унесенымі ў яе па волі народа ў лістападзе 1996 года.

Кожная з упамянёных канстытуцый мае свае адметныя рысы: адлюстроўвае гістарычную абстаноўку, асаблівасці развіцця грамадства і дзяржавы, утрымлівае арыентацыю на будучыню.

Неабходнасць новай Канстытуцыі ў пачатку гэтага дзесяцігоддзя была абумоўлена прыняццем нашай краінай Дэкларацыі аб суверэнітэце і незалежнасці. Прыняцце новай Канстытуцыі ў 1994 годзе залажыла прававую аснову для развіцця незалежнай беларускай дзяржавы. Па сутнасці, комплекснага дакумента, які б вызначаў вектар развіцця краіны, а таксама адносіны паміж дзяржавай і грамадзянамі, да 1994 года не існавала.

Аднак у Канстытуцыі 1994 года не ўтрымлівалася дастаткова гарантый рэалізацыі правоў і свабод грамадзян. Змяненні ў эканоміцы, развіццё новых формаў уласнасці прывялі да рэзкага расслаення грамадства. У такіх умовах дзяржава, якая аб'явіла сябе дэмакратычнай, сацыяльнай і прававой, была абавязана гарантаваць забеспячэнне асноўных правоў і свабод грамадзян, праяўляць клопат аб малазабяспечаных і сацыяльна неабароненых слаях насельніцтва.

Акрамя таго, Рэспублікай Беларусь былі падпісаны Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека, Міжнародны пакт аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах і Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах. Гэтыя міжнародныя акты зыходзяць з таго, што правы і свабоды чалавека ўзнікаюць і існуюць не таму, што дзяржава іх устанавіла, а таму, што яны адвечна ўласцівыя чалавеку. Аснова ўсіх правоў і свабод — чалавечая годнасць. Роля ж дзяржавы зводзіцца да таго, каб заканадаўча садзейнічаць іх рэалізацыі ў штодзённым жыцці людзей. Замацаванне ў Канстытуцыі асноўных правоў і свабод, не падмацаванае эфектыўным механізмам абароны гэтых правоў, становіцца проста дэкларацыяй. Гэта ярка праяўлялася ў гады, якія папярэднічалі рэспубліканскаму рэферэндуму. Не выпадкова, у заканадаўчым працэсе правы і інтарэсы канкрэтнага чалавека адыходзілі на другі план і патаналі ў палітычных баталіях.

У той жа час палітычнае развіццё Беларусі патрабавала ўдасканалення і ўмацавання прэзідэнцкай формы праўлення, якая б магла забяспечыць моцную дзяржаўную ўладу, унутрыпалітычную стабільнасць, эфектыўную работу дзяржаўных органаў, стварыць умовы для выхаду рэспублікі з крызісу і рэфарміравання сацыяльна-эканамічнага ўкладу краіны на карысць яе народа.

У другой палове 1996 года стала відавочнай неабходнасць унясення змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю 1994 года. У Асноўным законе былі прадугледжаны два спосабы правядзення канстытуцыйнай рэформы. Яна магла быць ажыццёўлена шляхам правядзення ўсенароднага рэферэндуму або дэпутатамі парламента.

Прэамбула Канстытуцыі пачынаецца словамі: «Мы, народ Рэспублікі Беларусь...». Безумоўна, найважнейшыя пытанні дзяржаўнага жыцця павінна вырашаць народнае галасаванне. Залажыць надзейны фундамент законнасці, парадку і згоды ў грамадстве можна толькі пры падтрымцы народа. Толькі народ можа вырашаць свой лёс. Толькі народ можа вырашаць, па якому закону яму жыць і якое грамадства яму будаваць.

Трэба адзначыць, што правядзенне рэферэндумаў замацавана ў канстытуцыях многіх краін свету. У тым ліку і такіх, дэмакратычнасць якіх не выклікае сумненняў, — Францыі, Італіі, Швейцарыі. Апошняя Канстытуцыя Расіі таксама была прынята на рэферэндуме 12 снежня 1993 года. А ў Швейцарыі, напрыклад, за апошнія 200 гадоў было праведзена каля трохсот рэферэндумаў.

Усенароднае галасаванне ў форме рэферэндуму з'яўляецца формай прамога ўдзелу грамадзян у справах кіравання дзяржавай. Гэта фарміруе пачуццё адказнасці за лёс сваёй краіны, спрыяе павышэнню ўзроўню грамадзянскай адказнасці выбаршчыкаў. Рэферэндум не дазваляе выкарыстоўваць лабіраванне своекарыслівых інтарэсаў у прадстаўнічых органах улады, павышае ўзровень легітымнасці прымаемых рашэнняў. На карысць рэферэндуму ёсць адзін важны аргумент: ён дазваляе вырашыць узнікаючы крызіс, калі верагоднасць выпрацоўкі правільнага рашэння, якое задавальняе канфліктуючыя бакі, няпэўная. Народ жа, як заўсёды, разумнейшы за палітыкаў. І рэферэндум — вотум даверу народа.

Менавіта па вышэйпералічаных прычынах і было прынята рашэнне ўнесці змяненні і дапаўненні ў Канстытуцыю 1994 года на ўсенародным рэферэндуме.

Рэферэндум 1996 года з'яўляецца пацвярджэннем таго, што ажыццёўленая ў нашай дзяржаве канстытуцыйная рэформа накіравана на патрэбы народа, адлюстроўвае мэце рэалізацыі яго інтарэсаў.

Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку ўдалося давесці да свядомасці людзей блізкія ім ідэі. Гэта перш за ўсё ідэя аб жыццёвай важнасці для Беларусі інтэграцыі з Расіяй і саюза з братнім рускім народам. Ідэя аб неабходнасці стабілізацыі і ўмацавання дзяржаўнай улады ў рэспубліцы ў мэтах сканцэнтравання намаганняў дзяржавы на вырашэнні пытанняў эканамічнага, сацыяльнага, культурнага развіцця ў інтарэсах грамадства і на дэмакратычнай аснове, а таксама прапанова аб некаторым пераразмеркаванні ўладных паўнамоцтваў паміж заканадаўчымі і выканаўчымі органамі рэспублікі.

Вынікі рэферэндуму сведчаць аб тым, што за прыняцце праекта Канстытуцыі з прапанаванымі прэзідэнтам змяненнямі і дапаўненнямі прагаласавала абсалютная большасць грамадзян, надзеленых правам голасу. Безумоўную падтрымку атрымалі і іншыя пытанні, унесеныя ім на рэферэндум. У выніку прэзідэнцкі курс атрымаў шырокую сацыяльна-палітычную базу — тое, чаго не хапала дзяржаўнай палітыцы з таго часу, як Беларусь абвясціла сваю незалежнасць.

Канстытуцыйная рэформа спрыяла ўмацаванню беларускай дзяржаўнасці, пашырэнню дэмакратыі, павышэнню адказнасці кожнай з галін улады перад народам.

У той жа час і народ, дзякуючы канстытуцыйнай рэформе і праводзімай пасля яе палітыцы, знайшоў у асобе дзяржавы надзейнага абаронцу свайго права на дастойнае жыццё.

Істотна пашырыўся ўплыў народа і яго прадстаўнікоў у органах улады на працэс прыняцця важных дзяржаўных рашэнняў. Неабходнасць прыцягнення народа да пастаяннага ўдзелу ў гэтым працэсе, асабліва ў выпрацоўцы палітыкі на стратэгічных напрамках, таксама як і вяршэнства народнай волі, атрымалі канстытуцыйнае замацаванне ў фармулёўцы артыкула 3 Асноўнага закона. Згодна з ёй, «адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца народ».

Змест прынцыпу суверэнітэту звычайна абмяжоўваецца ўказаннем на тое, што народ ёсць крыніца ўсёй улады. У такім выкладанні гэты прынцып фігуруе ў канстытуцыях многіх развітых дзяржаў Еўропы. Дапаўняючы гэта тлумачэнне словамі аб народзе — носьбіце суверэнітэту, Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь ідзе значна далей. Яна падкрэслівае прынцып неадчужальнасці народнага суверэнітэту і патрабаванне да дзяржаўнай улады, якое вынікае адсюль, падтрымліваць штодзённую жывую сувязь з народам, кансультавацца з ім па ключавых пытаннях палітыкі дзяржавы.

Такім чынам, зроблены беларускім народам у ходзе асенняга рэферэндуму 1996 года канстытуцыйны выбар надаў яго адносінам з дзяржаўнай уладай новую, блізкую народным спадзяванням якасць.

Змяненні і дапаўненні, унесеныя ў Асноўны закон на рэферэндуме, не стварылі новай Канстытуцыі, а толькі дазволілі ўдасканаліць Канстытуцыю 1994 года ў адпаведнасці з патрабаваннямі самога жыцця. Вось чаму і дзень прыняцця Канстытуцыі ў нас застаўся ранейшы — 15 сакавіка.

Прынятая ўсенародным галасаваннем новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь стварыла ўсе неабходныя палітычныя і прававыя ўмовы для фарміравання моцнай і дзеяздольнай дзяржаўнай улады — улады, здольнай праводзіць у жыццё спадзяванні народа.

Не прэзідэнт і яго каманда атрымалі перамогу на рэферэндуме, а беларускі народ зрабіў свой выбар. Гэта паклала канец бясссэнсавай палітычнай неразбярысе, якая доўгі час аказвала негатыўны ўплыў на ўсе сферы грамадскага жыцця нашай рэспублікі. У той жа час народ аказаў давер Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку як кіраўніку дзяржавы і праводзімай ім унутранай і знешняй палітыцы.

Новая рэдакцыя Канстытуцыі канкрэтызавала кампетэнцыю заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладаў.

Пашырэнне паўнамоцтваў кіраўніка дзяржавы, зафіксаванае ў новай рэдакцыі Канстытуцыі, дазволіла палепшыць узаемадзеянне дзяржаўных органаў улады, дакладна вызначыць іх функцыі, узмацніць адказнасць усіх службовых асоб, павысіць якасць работы ўсяго дзяржаўнага апарату, аператыўна вырашаць найважнейшыя бягучыя пытанні ўнутранай і знешняй палітыкі.

Атрымаўшы шэраг новых функцый па забеспячэнню палітычнай і эканамічнай стабільнасці дзяржавы, пераемнасці і ўзаемадзеянню органаў дзяржаўнай улады, прэзідэнт, што цалкам заканамерна, набыў і рэальныя рычагі іх рэалізацыі: права роспуску парламента, прыняцце рашэнняў аб адстаўцы ўрада, прызначэнне чарговых і пазачарговых выбараў у парламент і мясцовыя прадстаўнічыя органы, удзел на парытэтнай аснове ў фарміраванні органаў канстытуцыйнага кантролю.

Якасна новыя функцыі з'явіліся ва ўрада. Захоўваючы пераемнасць у яго прававой дзейнасці, Канстытуцыя істотна змяніла статус і месца выканаўчай улады ў сістэме органаў дзяржаўнай улады. Гэта надало яе дзейнасці больш дынамізму і творчасці, павялічыла адказнасць за стан спраў у эканоміцы, якая, пераадольваючы крызісныя з'явы, выйшла на арбіту ўстойлівага развіцця.

Вызваліўшыся з-пад апекі мясцовых органаў улады, якая не зусім апраўдана, а часам нават і наносіла шкоду правасуддзю, пераўтварылася і судовая ўлада краіны.

Структура двухпалатнага парламента — Нацыянальнага сходу, адобраная ўсенародным галасаваннем, шмат у чым па-новаму вызначыла і функцыі заканадаўчага органа. Ён перастаў быць падмосткамі палітычных тусовак. Па сутнасці, Нацыянальны сход стаў тым дзяржаўным інстытутам, які вырашае дзяржаўныя задачы, прыходзіць да выверaных, узгодненых дзеянняў у сферы ўдасканалення беларускага заканадаўства.

Пры гэтым неабходна падкрэсліць, што ўсе дэпутаты Палаты прадстаўнікоў выбраныя народам. Ніводнага дэпутата ў Палату прадстаўнікоў прэзідэнт не прызначаў. Усе яны, падтрымаўшы рэферэндум, прызналі волю народа.

Узаемадзеянне дзвюх палат дазволіла адной з іх — Палаце прадстаўнікоў — займацца толькі распрацоўкай і прыняццем законаў. Другая палата — Савет Рэспублікі — праводзіць сур'ёзную экспертызу гэтых законаў, вызначае, у якой ступені яны адпавядаюць жыццю краіны, якія механізмы іх рэалізацыі. Такая сістэма дала магчымасць забяспечваць нармальны заканатворчы працэс.

Зараз Нацыянальны сход арыентуе сваю дзейнасць на прыняцце праграмных законаў, як мага хутчэйшае прывядзенне дзеючага заканадаўства ў адпаведнасць з цяперашняй Канстытуцыяй.

Усенародна адобраныя змяненні Асноўнага закона сталі юрыдычнай базай прававога забеспячэння сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны. Дапаўненні ў Канстытуцыю, прынятыя на рэферэндуме, садзейнічалі і садзейнічаюць далейшаму пашырэнню правоў і свабод грамадзян, забеспячэнню высокага прававога становішча асобы як найвышэйшай каштоўнасці ў сістэме сацыяльных адносінаў.

У артыкуле 1 Канстытуцыі наша дзяржава вызначана як унітарная, дэмакратычная, сацыяльная і прававая, як гарант абароны грамадзяніна на тэрыторыі краіны і за яе межамі. Асаблівае значэнне набываюць тыя нормы Канстытуцыі, якія вызначаюць формы ўласнасці, гарантуюць яе абарону, устанаўліваюць права грамадзян на прыстойны ўзровень, забеспячэнне дзяржаўнымі і муніцыпальнымі органамі жыллём тых, хто мае ў гэтым патрэбу, а таксама належную ахову здароўя.

У Канстытуцыі замацаваны прававыя і эканамічныя гарантыі духоўнага і маральнага развіцця моладзі, умовы для яе ўдзелу ў палітычным, сацыяльна-эканамічным і культурным развіцці краіны.

Важнай асаблівасцю новай рэдакцыі Канстытуцыі з'яўляецца і тое, што ў ёй прадугледжаны асаблівы клопат дзяржавы аб ветэранах вайны і працы, замацавана палажэнне аб ахове не толькі культурных, але і духоўных каштоўнасцяў народа.

Жанчынам прадастаўлены аднолькавыя з мужчынамі магчымасці ў атрыманні адукацыі і прафесійнай падрыхтоўкі, у працы і перамяшчэнні на рабоце, у грамадска-палітычнай і іншых сферах дзейнасці.

Прыняцце новай рэдакцыі Канстытуцыі адкрыла шырокі прастор для рэфарміравання базавых эканамічных законаў: аб уласнасці, аб прадпрыемствах, аб арэндзе, аб прадпрымальніцкай дзейнасці, аб інвестыцыях, банкаўскага і падатковага заканадаўства, актаў, якія рэгулююць адносіны ў галіне выкарыстання прыродных рэсурсаў і шэрагу іншых.

Тым не менш, мяркую, што рэзервы для ўдасканалення заканатворчага патэнцыялу яшчэ ёсць.

Далейшая работа па рэалізацыі палажэнняў Канстытуцыі будзе заключацца, па сутнасці, у правядзенні шырокамаштабнай прававой рэформы, заснаванай на доўгатэрміновай праграме заканадаўчай дзейнасці. Неабходна прызнаць, што для яе ўдасканалення існуе шмат падстаў, — галоўным чынам гэта неабходнасць паслядоўнай рэалізацыі задач па далейшаму развіццю прававой сістэмы Рэспублікі Беларусь.

У 1997 годзе прэзідэнт, парламент і ўрад ажыццявілі комплекс мераў па прывядзенню заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Асноўным законам. Прынята некалькі заканадаўчых актаў, накіраваных на рэалізацыю канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян. Удакладнены прававы статус і парадак дзейнасці асобных дзяржаўных органаў. Аднак шмат пытанняў дзяржаўнага будаўніцтва ў краіне яшчэ неабходна ўрэгуляваць заканадаўча. Трэба паскорыць прыняцце законаў аб Савеце Міністраў, «Аб статусе сталіцы», аб адміністрацыйна-тэрытарыяльным уладкаванні, «Аб надзвычайным становішчы». Вымагае заканадаўчага вызначэння роля Савета бяспекі, прававы статус дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў і членаў Савета Рэспублікі, парадак і працэдура іх выбараў і адклікання. Патрэбна ўнесці змяненні ў законы аб рэферэндуме, мясцовым кіраванні і самакіраванні, судаўладкаванні і статусе суддзяў, вызначыць парадак рэалізацыі грамадзянамі права заканадаўчай ініцыятывы, шэраг іншых.

Адначасова з распрацоўкай адпаведных законапраектаў у якасці прыярытэтнай застаецца задача па сістэматызацыі і кадыфікацыі заканадаўства і прыняццю новых Грамадзянскага, Грамадзянскага працэсуальнага, Крымінальнага, Крымінальна-працэсуальнага, Зямельнага, Працоўнага і іншых кодэксаў.

Да прыярытэтных напрамкаў удасканалення заканадаўства патрэбна аднесці і падрыхтоўку заканадаўчых актаў, накіраваных на прамую рэалізацыю ў галіне забеспячэння канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян. Значнасць гэтага пытання звязана таксама з адзначаемым у гэтым годзе 50-гадовым юбілеем прыняцця Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, якая вызначыла міжнародна-прававыя стандарты ў гэтай галіне. Ажыццяўленне гэтага непарыўна звязана з аналізам усяго заканадаўчага масіву. Не з'яўляецца выключэннем у гэтым плане і тэкст Канстытуцыі. Актуальным сёння з'яўляецца і стварэнне ў рэспубліцы новых органаў па правах чалавека.

Асаблівай увагі патрабуюць асобныя артыкулы Канстытуцыі, якія пакуль не забяспечаныя заканадаўча ці выклікаюць пытанні. Шэраг нормаў па прычыне сваёй неадназначнай інтэрпрэтацыі патрабуюць афіцыйнага тлумачэння.

Артыкулам 142 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь устаноўлена, што законы, указы і іншыя акты, якія дзейнічалі на тэрыторыі рэспублікі да яе ўвядзення, прымяняюцца ў частцы, што не супярэчыць Асноўнаму закону. У гэтай сувязі дзяржаўныя органы павінны правесці ўлік і аналіз нарматыўных актаў, прынятых імі або органамі, ім падведамнымі.

Асаблівае значэнне набываюць пытанні паляпшэння арганізацыі мясцовага кіравання і самакіравання. Ад якасці работы гэтых органаў у многім залежыць устойлівасць функцыянавання дзяржаўнай улады. Прынцыпы дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяржавы павінны мець у гэтых адносінах адназначнае тлумачэнне і прымяненне на ўсіх узроўнях арганізацыі грамадства. Артыкулам 117 Канстытуцыі абвешчана ажыццяўленне мясцовага кіравання і самакіравання менавіта грамадзянамі. Па-першае, праз ствараемыя дзяржаўныя органы. Па-другое, праз органы тэрытарыяльнага грамадскага самакіравання. Па-трэцяе, праз мясцовыя рэферэндумы, сходы і іншыя формы прамога ўдзелу грамадзян у дзяржаўных і грамадскіх справах. Такім чынам, у Канстытуцыі шляхам пералічэння суб'ектаў і формаў ажыццяўлення кіравання і самакіравання закладзены асновы як прадстаўнічай, так і непасрэднай дэмакратыі на мясцовым узроўні, якія неабходна заканадаўча рэалізоўваць.

* * *

Паважаны сход!

Напярэдадні Дня Канстытуцыі нельга не ўспомніць і аб органе, які ажыццяўляе ў нашай дзяржаве функцыі канстытуцыйнага кантролю. Прыемна канстатаваць, што цяперашні састаў Канстытуцыйнага суда пры ажыццяўленні сваіх паўнамоцтваў стаіць, у адрозненне ад сваіх папярэднікаў, па-за палітыкай. У 1997 годзе Канстытуцыйным судом вынесена 13 рашэнняў, у тым ліку некаторыя з іх у форме заключэнняў.

Ён з годнасцю выконвае сваё прызванне па ўмацаванню канстытуцыйнай законнасці, што заключаецца ў забеспячэнні вяршэнства Асноўнага закона, абароне прадугледжаных у ім правоў і свабод, рэалізацыі прынцыпу раздзялення ўладаў, выкананні іерархіі прававых нормаў.

**(Заканчэнне на 5-й стар.)**

ЗВЯЗДА
14 сакавіка 1998 г. 3

**Беларусь і Еўропа — тэма гутаркі нашага карэспандэнта з міністрам замежных спраў Іванам АНТАНОВІЧАМ**



# Іван АНТАНОВІЧ: «БЕЛАРУСЬ — ВАЖНАЯ ЕЎРАПЕЙСКАЯ КРАІНА, І ЯНА ЗОЙМЕ АДПАВЕДНАЕ ЯЕ ЗНАЧЭННЮ МЕСЦА НА КАНТЫНЕНЦЕ»

**— Як вядома, знешняя палітыка Беларусі шматвектарная, г. зн. яна ў роўнай ступені скіравана ва ўсе бакі свету. Але нешта не зусім зразумелае адбываецца з яе вектарамі апошнім часам. Заходні ці, інакш кажучы, еўрапейскі, вектар амаль «замарожаны», а ўсходні ў параўнанні з ім атрымаў гіпертрафіраванае развіццё. Чым гэта выклікана?**

— Нічога незразумелага ў нашай знешняй палітыцы няма. Яна ясная і адкрытая. Спосабы і тэмпы яе рэалізацыі на асобных накірунках вызначаюцца прэзідэнтам і ў многім залежаць ад знешніх палітычных і эканамічных абставінаў. Адсюль і прыярытэты, напрыклад, адносіны з Расіяй. У Заходняй Еўропе гэта Германія, Францыя. А ўвогуле мы цікавімся ўсімі краінамі, якія цікавяцца намі.

Гэта датычыцца, напрыклад, адносінаў з краінамі Блізкага Усходу. Як вы ведаеце, зусім нядаўна адбыліся вельмі плённыя візіты нашага прэзідэнта ў Іран і Сірыю, якія выявілі вялікае жаданне краін гэтага рэгіёна мець з Беларуссю такія ж адносіны, якія яны мелі калісьці з Савецкім Саюзам. Іх вабіць наш эканамічны, знешнегандлёвы патэнцыял, яны цікавяцца нашымі навукова-тэхнічнымі дасягненнямі, яны моцна паважаюць узважаны знешнепалітычны курс прэзідэнта Лукашэнкі. Зразумела, на такія падыходы мы не можам не адказваць узаемнасцю.

Што датычыць, як вы сказалі «замарожвання» заходняга вектара, то гэта мае месца. Але, мушу падкрэсліць, не па віне Беларусі. І зараз, калі ўжываць вашу тэрміналогію, ідзе пэўнае «размарожванне». Сведчанне гэтаму — прыезд у Мінск кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ. Як абнадзейлівы сімптом я ўспрымаю той факт, што прадстаўнікі гэтай аўтарытэтнай арганізацыі ўжо не спрабуюць умешвацца ў правамоцнасць беларускага народа выказваць сваю волю на рэферэндуме альбо ўносіць папраўкі ў сваю Канстытуцыю. Сёння АБСЕ праз сваю групу мае намер вывучыць узровень прававой практыкі ў нашай краіне, яе заканадаўчай сістэмы, наогул нашых адносінаў да правоў чалавека ў цэлым і зрабіць свае высновы, і потым, магчыма, прадставіць свае рэкамендацыі. Што ж, я з цікавасцю з імі пазнаёмлюся.

Не буду хаваць: мы вельмі спадзяёмся на тое, што канструктыўнае супрацоўніцтва з групай АБСЕ, яе кіраўніком, паслом доктарам Хансам Георгам Вікам, будзе садзейнічаць паляпшэнню нашых адносінаў з краінамі Еўрапейскага саюза.

**— Пры ўсіх здабытках беларускай дыпламатыі на Усходзе, асабліва ў арабскім свеце, нам як народу, дзяржаве і краіне лёсам наканавана жыць у Еўропе, таксама будаваць разам з іншымі агульнаеўрапейскі дом. Ці ёсць у Міністэрства замежных спраў план нармалізацыі адносінаў з галоўнымі еўрапейскімі структурамі?**

— Ёсць. Але пра планы заўсёды лягчэй гаварыць, чым іх выконваць. Таму я спынюся толькі на вузлавых момантах нашага еўрапейскага плана.

Мы будзем дабівацца адмены дыскрымінацыйнага рашэння аб прыпыненні рэалізацыі пагаднення аб партнёрстве і супрацоўніцтве паміж Еўрапейскім саюзам і Беларуссю. ЕС пайшоў на гэты крок пад уплывам і націскам нашай апазіцыі, якая здолела давесці пэўным еўрапейскім арганізацыям і некаторым асобам на Захадзе, што ў нас, маўляў, становішча з правамі чалавека горшае, чым у некаторых іншых краінах кантынента. Гэта Піррава перамога, якая стала магчымай дзякуючы памылковаму аналізу еўрапейскімі структурамі сітуацыі ў Беларусі, не прынесла апазіцыі аўтарытэту і ачкоў на радзіме, а вось эканоміка краіны, а значыць і яе народ, моцна пацярпелі ў выніку кампраметацыі беларускага кіраўніцтва ў вачах еўрапейскай супольнасці. Гэтую памылку мы і збіраемся паступова выпраўляць.

Бо мы па-ранейшаму, як і наша саюзніца Расія, імкнёмся да інтэграцыі ў вядучыя еўрапейскія структуры. Сёлета мы зноў пададзім заяўку на прыняцце ў Савет Еўропы. Таксама плануем правесці серыю перамоў па ўсяму спектру ўзаемаадносінаў і магчымага супрацоўніцтва з Еўрапейскім саюзам.

Працягнем дыялог з НАТО. Для нас пытанне членства ў альянсе не з'яўляецца жыццёвай неабходнасцю, і мы не ўзводзім яго ў ранг найважнейшага пункта знешнепалітычнай стратэгіі. Але даволі хутка мы будзем мяжаваць з краінамі НАТО. Перспектыва гэтага суседства непакоіць нас, і таму мы вядзём перамовы з генеральным сакратаром НАТО панам Саланай аб прававых гарантыях нашай бяспекі. Мы маем права разлічваць на гэта.

Адначасова мы ўвялі ў практыку рэгулярныя кансультацыі з Расіяй па праблемах абароны.

Вядома, мы ўважліва назіраем за падрыхтоўчымі працэсамі да пашырэння Еўрапейскага саюза. Ужо відавочна, што шлях да паўнацэннага членства ў ім для краін-кандыдатаў зойме вельмі працяглы перыяд. Натуральна, мы не будзем сярод жадаючых першымі ўступіць у ЕС. Для Беларусі гэта пакуль нявызначаная мэта. Нас вельмі цікавіць, як на практыцы, з якімі выгодамі і адначасова з выдаткамі будзе ажыццяўляцца ўваходжанне ў ЕС Польшчы, Чэхіі, Венгрыі. Мы паглядзім, як і на якіх умовах будуць прымацца Эстонія, Літва, Латвія. І потым ужо канчаткова вырашым, хутчэй за ўсё на рэферэндуме, падаваць Беларусі заяўку на ўступленне ў Еўрапейскі саюз ці не.

А пакуль на першым плане стаіць, паўтаруся, нармалізацыя двухбаковых адносінаў, развіццё ўзаемных палітычных кансультацый, пашырэнне гандлёва-эканамічных сувязяў. У апошнім мы сутыкаемся з вялікімі цяжкасцямі. Нашым вытворцам надзвычай складана заваёўваць заходнееўрапейскі рынак, яны моцна цярпяць ад дыскрымінацыйных мераў.

**— Абачлівасць і памяркоўнасць, безумоўна, лепшыя рысы характару беларусаў. Але ці не саслужыць нам дрэнную службу славутая беларуская талерантнасць? Сёння на еўрапейскім кантыненце ідуць надзвычай цікавыя, складаныя і важныя працэсы. Многія краіны ўпарта шукаюць сваё месца ў Новай Еўропе. У сувязі з гэтым радыкальным чынам пераглядаюцца мінулыя прыярытэты, канцэпцыі, саюзныя сувязі. Былыя ворагі становяцца сябрамі і наадварот. Найбольш яскрава праяўляецца гэта ў адносінах да НАТО. Амаль усе краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы спаборнічаюць за вялікі гонар быць членам гэтага альянсу. Балгарыя, якая сваім існаваннем і дзяржаўнасцю ў многім абавязана Расіі, цяпер нават спрабуе шантажыраваць заходнееўрапейскіх партнёраў. Балгарскі віцэ-прэм'ер пан Башкоў палохаў іх: «Глабальная палітыка не мае вакууму. Калі НАТО і ЕС адвернуцца ад нас, то іх месца зойме нехта іншы». «Іншы» — гэта, відаць, Саюз Расіі і Беларусі, краіны СНД.**

**Мы ж да НАТО ставімся зусім інакш. Нават больш рашуча і рэзка, чым Расія, пратэстуем супраць яго пашырэння. І ўзнікае заканамернае пытанне: ці не застанёмся мы ў баку ад стварэння адзінай сістэмы бяспекі ў Еўропе?**

— Згодны, у Еўропе зараз ідуць неверагодна супярэчлівыя працэсы. І сапраўды, афіцыйныя колы малых дзяржаў нярэдка палохаюць НАТО тым, што яны, маўляў, перакінуцца ў іншы лагер. Гэтыя заявы гучаць часам недарэчна і нават крыху смешна. Па-першае, куды канкрэтна яны могуць перакінуцца? Па-другое, а ці чакаюць іх там?

Бо стан эканомікі, палітычная сітуацыя ў краінах, якія імкнуцца быць у НАТО (напрыклад, у той жа Балгарыі), значна горшыя, чым у Беларусі. І з гэткім багажом наўрад ці варта каго-небудзь палохаць. Тым не менш, кіраўніцтва дзяржаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы свята верыць ў тое, што адразу пасля атрымання членства у ЕС і НАТО да іх шырока пацячэ магутная фінансавая плынь дапамогі з багатых краін.

Я лічу гэта авантурызмам палітыкаў. Хто-хто, а яны дакладна ведаюць, што з Захаду не прыйдзе хуткая эканамічная дапамога. Але былі выбары, і народу неабходна была светлая перспектыва на заможнае жыццё. І яе абяцалі, а там хоць трава не расці. Але яна расце...

І вось сёння высвятляецца, што НАТО, і асабліва Еўрапейскі саюз, аказаліся вельмі разборлівымі ў прыёме новых членаў. Уступленне ў іх абстаўляецца ўсё больш складанымі ўмовамі. Створана чарга, якая, відаць па ўсім, будзе рухацца вельмі марудна.

Акрамя таго, новым членам прыйдзецца пайсці на велізарныя матэрыяльныя выдаткі. Па разліках амерыканцаў, Польшчы на мадэрнізацыю сваіх узбраенняў спатрэбіцца на 100 мільярдаў долараў больш, чым яна здольная заплаціць сама. Так, ёй дадуць крэдыты, але іх трэба вяртаць, і з немалымі працэнтамі.

Членства ў Еўрапейскім саюзе таксама будзе дорага каштаваць польскаму грамадству. Эксперты ЕС сталеліцейную прамысловасць Польшчы ацэньваюць як устарэлую і патрабуюць яе неадкладнага рэфарміравання, ці, прасцей кажучы, ліквідацыі. Ліквідуйце. Але куды падзецца 100 тысячам чалавек, якія там працуюць? Падобныя пытанні ўзнікаюць і па іншых галінах польскай эканомікі.

Увогуле, сёння ніводная з еўрапейскіх краін, якія за ўзор рэформаў узялі заходнія падыходы, не можа пахваліцца вялікімі поспехамі ў паляпшэнні жыцця людзей.

**— Аўтарытэт у свеце нашай саюзніцы Расіі, нягледзячы на ўсе перыпетыі апошніх гадоў, усё ж застаецца высокім. Яе паважаюць, з ёй лічацца ў Еўропе. Наколькі мы можам разлічваць на падтрымку Расіі ў справе нармалізацыі нашых адносінаў з еўрапейскімі структурамі?**

— Гэту падтрымку мы ўжо маем. Быць саюзнікам Расіі — гэта вялікі гонар для Беларусі. І сёння мае калегі, міністры замежных спраў некаторых краін, часта кажуць мне: «Вам, беларусам, добра, у вас саюзніца Расія». Таму да саюзніцкіх абавязкаў з ёй мы ставімся адказна, як, дарэчы, да ўсяго, што робім у свеце і дома. Але, з іншага боку, быць саюзнікам Расіі вельмі няпроста. Бо яна велізарная сусветная дзяржава.

І гэта далёка не ўсім у свеце падабаецца. Амерыканскі палітолаг пан Бжэзінскі, напрыклад, сцвярджае, што Расіі будзе лепей, калі яна адмовіцца ад ролі сусветнай дзяржавы і пяройдзе ў разрад рэгіянальных. Сумніўная, шчыра кажучы, парада для краіны, якая займае значную частку еўрапейскага і азіяцкага кантынентаў. Яна па сваёй сутнасці не можа быць другараднай і ўхіляцца ад вырашэння глабальных праблем.

Я з задавальненнем канстатую, што падтрымка нас Расіяй у міжнародных арганізацыях, у тым ліку і еўрапейскіх, адназначная. Дыпламатычнае супрацоўніцтва паміж намі ўзаемавыгаднае. Мы, як саюзнікі, ўзгадняем свае палітычныя пазіцыі па галоўных праблемах. Тут трэба мець на ўвазе, што Расіі наш голас на міжнароднай арэне патрэбны ў той жа ступені, у якой расійскі голас неабходны Беларусі.

Хачу падкрэсліць, што мы вельмі акуратна ставімся да знешнепалітычнага супрацоўніцтва з нашым стратэгічным саюзнікам. І ніколі не прасілі і не папросім Расію аб падтрымцы нас у сітуацыі, якая б нейкім чынам паставіла расіян у нявыгаднае становішча, прымусіла ісці на кампраміс з уласнымі мэтамі.

**— Дапамога Расіі абавязкова спатрэбіцца Беларусі для ўступлення ў Савет Еўропы. Гэта ненармальна, на мой погляд, калі менш падрыхтаваныя ў многіх адносінах краіны, напрыклад, Албанія, дамагліся членства ў гэтай аўтарытэтнай арганізацыі. Неяк крыўдна становіцца за Беларусь.**

— Думаеце, мне не крыўдна? Увогуле працэс уступлення ў Савет Еўропы для ўсіх постсавецкіх рэспублік і шэрагу іншых краін быў нялёгкім. Па кожнай без выключэння кандыдатуры ішлі жорсткія, працяглыя спрэчкі. Лёс галасавання вырашаўся літаральна некалькімі галасамі.

Што датычыць Беларусі, то нагадаю: правыя сілы ў Еўропе празмерна раздулі вядомы канстытуцыйны крызіс 1996 года і выкарысталі яго для таго, каб заблакіраваць прыём нашай дзяржавы ў Савет Еўропы. Але гэта блакада, спадзяюся, не будзе працягвацца доўга. Сёлета Беларусь зробіць намаганні, пэўныя захады для ўступлення ў СЕ.

Мы зноў паставім пытанне аб членстве. Але перад гэтым пагаворым з кожнай дзяржавай — членам Савета Еўропы і паспрабуем пераканаць у нашым неад'емным праве быць побач з імі ў Страсбургу. Бо мы не горшыя за іншыя краіны, якія былі прыняты ў СЕ за апошнія пяць гадоў.

**— Чаму Беларусь у асобе прэзідэнта, ды і вашай, як міністра замежных спраў, пастаянна выступае за ўзмацненне ролі АБСЕ ў еўрапейскіх справах, асабліва ў вырашэнні праблем бяспекі? Ці не пераацэньваюцца нашымі ўладамі магчымасці АБСЕ, якая пасля заканчэння «халоднай» вайны ўсё яшчэ знаходзіцца ў стане перабудовы, працягвае шукаць сваю «нішу» ў Еўропе?**

— У дачыненні да АБСЕ наш Прэзідэнт займае правільную пазіцыю, і я яе поўнасцю падзяляю. Кажу шчыра: АБСЕ — універсальная арганізацыя. У яе састаў уваходзяць 54 краіны. На яе рахунку шмат важных спраў, напрыклад, зніжэнне верагоднасці «гарачай» вайны ў гады жорсткага процістаяння сацыялістычнага і капіталістычнага лагераў.

Сёння значэнне АБСЕ ва ўсталяванні ў Еўропе напрыканцы тысячагоддзя новага палітычнага клімату цяжка пераацаніць. За гэтай арганізацыяй я бачу вялікую будучыню, асабліва ў пабудове агульнаеўрапейскага дома. Еўрапейскі саюз і НАТО хацяць і спрабуюць істотна рэфарміравацца, але ўсё ж застаюцца закрытымі элітарнымі клубамі найбольш развітых краін. А АБСЕ адкрытая для супрацоўніцтва для ўсіх і па ўсіх накірунках.

Так, яна знаходзіцца ў стане росту, і яе патэнцыял выкарыстоўваецца не на ўсе 100 працэнтаў. Прыняцце статута АБСЕ, увогуле заканчэнне яе рэфарміравання дазволіць ёй аказваць больш значны пазітыўны ўплыў на еўрапейскую і сусветную палітыку. Таму мы будзем усяляк падтрымліваць дзейнасць АБСЕ.

**— Не за гарамі ўвядзенне ў краінах Еўрапейскага саюза агульнай валюты — еўра. Не мне вам гаварыць, наколькі важная для Еўропы будзе гэтая падзея. Ці рыхтуецца МЗС краіны да яе?**

— Вядома, рыхтуецца, як, дарэчы, і многія дзяржаўныя ведамствы, асабліва фінансавыя. Наша міністэрства вядзе зараз вельмі інтэнсіўны маніторынг: што будзе пасля ўвядзення еўра, як адрэагуе на гэта эканоміка ўвогуле Еўропы і асобных яе краін — у прыватнасці? Цікавіць нас будучы ход непазбежнай барацьбы еўра і долара, яе магчымыя вынікі і многае іншае. І магу запэўніць чытачоў «Звязды», што Беларусь не акажацца не падрыхтаванай да з'яўлення еўра ў разліках з краінамі ЕС.

**— Свежых і цікавых ідэй ў палітыцы заўсёды не хапае. Асабліва іх дэфіцыт адчуваецца на пераломе эпох, глабальных зрухаў у жыцці сусветнай супольнасці, змене стагоддзяў. Як з новымі ідэямі ў міністэрстве і ў вас асабіста? Якія крыніцы выкарыстоўваюцца для іх пошуку? Наколькі я ведаю, у ЗША, еўрапейскіх краінах старой дэмакратыі, скажам Англіі, Францыі і іншых, знешнепалітычныя ведамствы шчыльна працуюць са шматлікімі недзяржаўнымі палітычнымі арганізацыямі, заказваюць ім правядзенне даследаванняў па асобных праблемах, распрацоўку канцэпцый і г. д. Там нярэдкі абмен кадрамі — дыпламаты высокага рангу, у тым ліку і былыя міністры замежных спраў, пераходзяць працаваць у вышэйназваныя структуры, у сваю чаргу адтуль «рэкрутуюцца» спецыялісты для ажыццяўлення знешняй палітыкі. Чаму ў нас гэта не прыжываецца?**

— Новых ідэй бракуе і нам. Тым больш, нярэдка здараецца, што пачнеш уважліва вывучаць, здавалася б свежую, арыгінальную думку, а яна потым аказваецца добра забытай старой ідэяй.

Разам з тым мы пастаянна шукаем розныя шляхі папаўнення нашага, скажам так, ідэйнага багажу. Як у сябе дома, так і за мяжой. Пастаянна хто-небудзь з дыпламатаў знаходзіцца ў той ці іншай краіне на стажыроўцы. Мы заахвочваем падобную вучобу. Мы вядзём рэгулярныя міжміністэрскія кансультацыі з усімі еўрапейскімі краінамі. Гэта нас таксама ідэйна падсілкоўвае.

Вельмі карысным аказалася для нас далучэнне да глабальнай камп'ютэрнай сеткі Інтэрнэт. Мы атрымалі шырокую плынь штодзённай свежай міжнароднай інфармацыі. А гэта выдатная падпітка для нараджэння новых ідэй.

Шукаем мы іх і на беларускай зямлі. Хай не крыўдуюць на мяне прадстаўнікі нашых цэнтраў, асацыяцый, фабрык думак, але іх прадукцыя па якасных паказчыках не заўсёды можа быць выкарыстана намі. У айчыннай паліталогіі сёння назіраецца пэўная стагнацыя думкі, крызіс навацый. Ён, дарэчы, уласцівы і многім замежным паліталагічным цэнтрам. Але разам з тым мы гатовыя да канструктыўнага супрацоўніцтва з прадстаўнікамі беларускай паліталогіі.

**Гутарыў Леанід ЛАХМАНЕНКА.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

## Налічэнне дапамогі залежыць ад працоўных дзён

*По месцы працы мне адмовілі ў выплаце дзіцячай грашовай дапамогі, паколькі ў даведцы ў мужа былі ўказаны толькі звесткі аб першым працоўным паўгоддзі. Першых шэсць месяцаў ён працаваў у калгасе шафёрам, а потым уладкаваўся на іншую працу і згубіў усе дакументы. Падкажыце, ці мелі права адмовіць мне ў выплаце грошай на дзіця?*

*І яшчэ адно пытанне, ці вызваляецца адзін з бацькоў ад выплаты падаходнага падатку, калі ў сям'і выхоўваюцца двое дзяцей да 12 гадоў?*

**Валянціна ПАЎЛЕНКА,**
**в. Вуць, Добрушскі раён.**

У аддзеле сям'і і гендэрных праблем Міністэрства сацыяльнай аховы РБ растлумачылі, што ў адпаведнасці з Палажэннем аб парадку назначэння і выплаты дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, сям'я калгаснікаў мае права на атрыманне дапамогі на дзяцей, якім ужо споўнілася 3 гады, толькі ў тым выпадку, калі працаздольны бацька ў поўнай сям'і выпрацаваў у годзе, які папярэднічаў году звяртання па дапамогу, не менш як 2/3 мінімуму выхадаў на працу, устаноўленага калгасам.

Што датычыцца пытання аб налічэнні падаходнага падатку, то, згодна з Законам РБ «Аб падаходным падатку з грамадзян», падаходным падаткам не абкладаюцца заработная плата і іншыя віды грашовых узнагароджанняў працоўных і служачых, якія атрымліваюцца апошнімі па месцы іх асноўнай працы (службы, вучобы) у памеры месячнай мінімальнай заработнай платы на кожнае дзіця да 18 гадоў.

## Вам дапамогуць атрымаць пашпарт

*Я згубіў пашпарт. Не маю і пасведчання аб нараджэнні. Ёсць толькі ваенны білет, дзе ёсць даныя аб маёй асобе. Ці з'яўляецца ён афіцыйным дакументам для атрымання новага пашпарта ці пасведчання інваліда?*

**Міхаіл ШМАНЬ,**
**п/а Вархі Гарадоцкага раёна**

Заява грамадзяніна М. Ф. Шманя была разгледжана аддзелам пашпартна-візавай службы УУС Віцебскага аблвыканкама. У адказе «Звяздзе» паведамляецца, што «для атрымання пашпарта ўзамен згубленага грамадзяніну М. Ф. Шманю трэба звярнуцца ў пашпартна-візавую службу Гарадоцкага РАУС па месцы жыхарства». Трэба разумець, чытачу дадуць там неабходныя тлумачэнні і яго пытанне будзе, спадзяёмся, паспяхова вырашана.

# З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ



**На пытанні ўдзельнікаў «прамой лініі» «Звязды» адказвае беларускі ваенны пракурор генерал-маёр юстыцыі Вячаслаў ЛЮБАВІЦКІ**

# Ваенная пракуратура не толькі карае, але і абараняе

## Армія — частка нашага грамадства

**— Алё, гэта ваенны пракурор Любавіцкі?**

— Так.

**— З Віцебска звоняць вам. Маё прозвішча Заяц. Хвалююся за сына, які служыць у Гомелі. За сем месяцаў ён змяніў чатыры месцы службы. І цяпер яго часць расфарміроўваецца. Ці можна яго перавесці ў Віцебск, бліжэй да дому?**

— Раю вам звярнуцца ў мабілізацыйнае ўпраўленне Міністэрства абароны, супрацоўнікі якога займаюцца менавіта пераводам салдат у іншае месца службы. Праўда, для гэтага павінны быць важкія аб'ектыўныя прычыны. Згодна з Палажэннем аб праходжанні ваеннай службы ва Узброеных Сілах (Пастанова Саўміна № 493 ад 22.07.93 г.), падставай для пераводу ваеннаслужачага тэрміновай службы з'яўляюцца: службовая неабходнасць, стан здароўя, пацверджаны заключэннем ваенна-ўрачэбнай камісіі; сямейныя абставіны, устаноўленыя актам сямейна-маёмаснага становішча, праведзенага РВК. У любым выпадку вашаму сыну неабходна звяртацца для пераводу да камандзіра часці з рапартам.

**— Добра, што дазваніўся. Гэта Аляксандр Сасніцкі. Мой брат служыць зараз у арміі. Ведаю, што там існуюць шматлікія праблемы, звязаныя з маральна-псіхалагічнай абстаноўкай. Скажыце, Вячаслаў Віктаравіч, ці ёсць у войску тэлефон даверу?**

— Справа гэта новая, але патрэбная. Практычна ва ўсіх воінскіх часцях ёсць тэлефоны даверу, якія можа выкарыстаць любы ваеннаслужачы, але гэтыя тэлефоны знаходзяцца толькі на тэрыторыі часці.

**— Гэта ваенны пракурор?**

— Так.

**— Я Андрэй Сянько. Здаецца, ужо некалькі гадоў ідзе размова пра распрацоўку закона аб альтэрнатыўнай службе. Мяркую, гэта правільна. Чаму да гэтага часу ён не ўводзіцца?**

— Сапраўды, закон аб альтэрнатыўнай службе распрацоўваецца. Ён амаль падрыхтаваны, але не прымаецца з-за фінансавых і іншых цяжкасцяў. Вы ж разумееце, што альтэрнатыўная служба — гэта работа ў бальніцах, шпіталях, на іншых сацыяльна неабходных аб'ектах, дзе для праходжання службы юнакоў трэба ствараць умовы працы. Пакуль ідзе прапрацоўка ўсяго гэтага.

**— Ці не ў палітычнай плоскасці запаволілася вырашэнне гэтай праблемы?**

— Не, у палітычным плане вырашана, што такі закон патрэбен. Да яго прыняцця гатовы. Думаю, што на працягу некалькіх бліжэйшых гадоў гэта будзе зроблена. Але скажы, Андрэй, ці хочаш ты служыць у арміі?

**— Канешне. Пасля заканчэння школы...**

— Што ж, шчасліва табе. Дзякуй за размову.

**— Вячаслаў Віктаравіч, званю з Бабруйска, прозвішча сваё не хачу называць.**

— Чаму?

**— Вы зразумееце. Справа ў тым, што ў 1994 годзе я быў звольнены па артыкулу з арміі.**

— Па якому артыкулу?

**— За праступкі, якія ганьбяць званне афіцэра. Напісаў па асабістаму жаданню, каб звольніцца. Але цяпер хацеў бы аднавіцца.**

— Многія былыя ваеннаслужачыя звяртаюцца з такімі просьбамі. Магу сказаць, што вы не зможаце аднавіцца. У адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам, афіцэры і прапаршчыкі, звольненыя па дыскрэдытацыі і службовай неадпаведнасці, у арміі аднавіцца не могуць.

**— Звоніць вам, Вячаслаў Віктаравіч, Наташа Сінкевіч з Баранавіч. Нядаўна ў нас нарадзіўся сын, а мужу прыйшла павестка ў армію. Ці могуць даць яму адтэрміноўку?**

— Магу цябе супакоіць, Наташа. Твой муж мае права на адтэрміноўку. Згодна з арт. 15 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб усеагульным воінскім абавязку і ваеннай службе», адтэрміноўка ад прызыву на тэрміновую ваенную службу па сямейнаму становішчу прадастаўляецца асобам, якія маюць: адно дзіця ва ўзросце да 3 гадоў або старэй 3 гадоў, якое выхоўваецца без маці; адно дзіця-інваліда, дваіх ці болей дзяцей; жонку-інваліда I ці II групы. Прызыўнікі, якія маюць адно дзіця ва ўзросце да 3 гадоў, могуць быць прызваны на тэрміновую ваенную службу толькі па іх жаданню і са згоды жонкі.

**— Таварыш генерал-маёр, званю з Расон. Георгій Анатольевіч Турашаў.**

— Вельмі прыемна.

**— Мой сын паспяхова вучыцца ў акадэміі на другім курсе факультэта правазнаўства, вывучае англійскую мову. Якая ў яго перспектыва? Ці дастаткова адукацыі, якую ён атрымае ў акадэміі?**

— Безумоўна, адукацыі хопіць. Ваенная пракуратура цяпер укамплектавана высокакваліфікаванымі кадрамі. Існуе нават своеасаблівая чарга, каб паступіць туды на службу. Тым не менш, частка сёлетняга выпуску будзе размеркавана менавіта ў ваенную пракуратуру, частка будзе працаваць юрыстамі ў Міністэрстве абароны, лепшыя з іх будуць у рэзерве для прыёму ў беларускую ваенную пракуратуру.

**— Не магла дазваніцца раней. Прабачце. Я — маці Людміла Уладзіміраўна Парфянкова. Мой сын захварэў і быў камісаваны. Ці мае сын нейкія льготы?**

— А якая хвароба ў сына?

**— Экзэма ступні.**

— Па закону аб статусе ваеннаслужачых, калі салдат тэрміновай службы прызнаны непрыгодным для далейшага праходжання вайсковай службы ў выніку захворвання, атрыманага пры выкананні абавязкаў, то яму выплачваецца 10 мінімальных заработных плат і, калі неабходна, вызначаецца група. Прычым, падкрэсліваю, хвароба, на якую хварэе ваеннаслужачы, павінна быць звязана менавіта з выкананнем абавязкаў.

**— У яго запісана, што годны да страявой.**

— У такім разе група яму не належыць, а вось 10 мінімалак ён усё роўна можа атрымаць, калі Цэнтральная ваенная ўрачэбная камісія МА ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам звяжа яго захворванне са службай.

**— Вячаслаў Віктаравіч, турбуе вас Дзіма Тушчынскі. Хутка ў армію ісці, але страшнавата.**

— Чаму ж, Дзіма?

**— Шмат чуў і чытаў пра тое, што робіцца там. Але зацікавіла ваша нядаўняе інтэрв'ю ў «Звяздзе», у якім вы прапанавалі стварэнне вучэбных цэнтраў па падрыхтоўцы навабранцаў. Ці будуць яны?**

— Так, мы прапанавалі змяніць сістэму накіравання ў часці маладога папаўнення. Перакананы, Дзіма, што такія цэнтры будуць. Мы лічым, што навабранцы павінны прайсці праз вучэбныя цэнтры, дзе змогуць б атрымаць дадатковую ваенную падрыхтоўку, прыняць прысягу. Тут жа найбольш дастойныя будуць адбірацца на курсы маладых камандзіраў і спецыялістаў. Ваенныя медыкі, у сваю чаргу, правядуць кантрольныя абследаванні, пасля якіх непрыгодныя па стану здароўя юнакі адразу вернуцца дамоў. На мой погляд, гэта дазволіць навабранцам хутчэй адаптавацца да армейскага асяроддзя, а значыць значна палепшылася б маральна-псіхалагічная абстаноўка ў войску. Ці згодзен, Дзмітрый, з такой пастаноўкай пытання?

**— Не толькі згодзен, але і хацеў бы, каб хутчэй такая сістэма запрацавала.**

— Што ж, дзякуй за падтрымку, і ўсяго добрага табе. Будзем дабівацца ажыццяўлення нашых задумак. Тым больш, абяцалі нас падтрымаць.

* * *

*Шмат пытанняў Беларускаму ваеннаму пракурору прыйшло па пошце. Адказы на некаторыя з іх публікуюцца, а астатнія правяраюцца і кожнаму канкрэтнаму аўтару будуць адпраўлены пісьмова.*

**«Дэмакратычнасць, здаровы сэнс прадугледжваюць роўнасць і адзінасць закона для ўсіх, з аднаго боку, і незалежнасць судовай улады, пракурорскага нагляду — з другога. Калі зыходзіць з гэтай аксіёмы, то робіцца зусім незразумелым, недарэчным існаванне пракуратуры ў пагонах».**

*(З пісьма А. Юнчанкава, г. Полацк.)*

— Вядома, што ваенная пракуратура з'яўляецца часткай сістэмы пракуратуры Рэспублікі Беларусь і кіруецца ў сваёй дзейнасці законам краіны. Аднак трэба заўважыць, што Узброеныя Сілы — спецыфічны, складаны і шматгранны дзяржаўны інстытут. У яго праблемах можа разабрацца толькі спецыяліст.

Забеспячэнне законнасці асабліва важна ва ўмовах Узброеных Сіл, заснаваных на прынцыпах строгай цэнтралізацыі ваеннага кіравання і адзінаначалля. Ваенная пракуратура якраз і займаецца наглядам за захаваннем законнасці ва Узброеных Сілах. Валоданне ваеннай спецыфікай толькі дапамагае, не ўмешваючыся ў аператыўную дзейнасць войскаў, якасна выконваць свае функцыі.

**«Раней мы жылі ў вёсцы Хаменкі Нараўлянскага раёна, дзе сын стаяў на медыцынскім уліку, па абавязковаму адсяленню пераехалі ў Светлагорскі раён. Нягледзячы на ўсе мае патрабаванні яго прызвалі ў армію. Пасля звароту да міністра абароны яго абследавалі ў шпіталі ў Мінску, зрабілі аперацыю на вуха і зноў накіравалі у часць. Нядаўна ён быў дома. За гэты час ў яго тры разы было запаленне вуха. Дапамажыце разабрацца».**

*(З пісьма Надзеі Мазурэнка.)*

— У сувязі з тым, што ваш сын перанёс аперацыю і працягвае скардзіцца на стан здароўя, па ініцыятыве Беларускай ваеннай пракуратуры ён будзе ў бліжэйшы час абследаваны ў 13 УВВК МА РБ ў г. Мінску.

**«Звяртаецца да вас маці загінуўшага сына-афіцэра. Дапамажыце знайсці справядлівасць. Мой сын Рудой Дзмітрый Віктаравіч у 1990 годзе быў прызваны на вучобу ў ВННПУ Салігорскім аб'яднаным ваенным камісарыятам Мінскай вобласці. У 1994 годзе ён закончыў вучылішча і па кантракту быў пакінуты ў Расіі для далейшага праходжання воінскай службы.**

**У студзені 1995 года нас напаткала вялікае гора. Наш сыночак загінуў у Чачні. У лютым 1997 года выйшаў дэкрэт прэзідэнта аб выплаце бацькам загінуўшых сыноў па тры мінімальныя зарплаты. Нас таксама выклікалі ў Салігорскі АГВК і афармілі дакументы на атрыманне пенсіі за загінуўшага сына. Але потым паведамілі, што наша пытанне і не разглядалася ўрадам. Чаму? Ёсць жа і Ташкенцкае пагадненне ад 15 мая 1992 года аб парадку пенсійнага забеспячэння ваеннаслужачых і іх сем'яў. Сорамна і крыўдна, што трэба штосьці выпрошваць за свайго загінуўшага сына.**

**Хацелася б ведаць, ці будзе ўвогуле разглядацца пытанне нашым урадам. І яшчэ пытанне. У нас падрастае другі сын, яму 17 гадоў. Ці абавязаны ён служыць ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь?»**

*(З пісьма С. Рудой.)*

—Згодна з арт. 36 Закона «Аб пенсійным забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў», штомесячная дапамога ў памеры 3 мінімальных заработных плат назначаецца маці, бацьку і жонцы (якая не заключыла новы шлюб) афіцэраў, якія загінулі (памерлі) пры выкананні воінскага ці службовага абавязку ў Афганістане ці іншых краінах, дзе вяліся баявыя дзеянні, згодна з пералікам, які вызначае Міністэрства абароны Беларусі.

Чачня, у адпаведнасці з загадам Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь ад 25.07.97 г. № 336 «Аб зацвярджэнні Пераліку краін і перыядаў баявых дзеянняў з удзелам грамадзян Рэспублікі Беларусь», у гэты пералік не ўваходзіць. У гэтым пераліку змяшчаюцца толькі тыя краіны, вайна ў якіх вялася ў перыяд існавання СССР.

Пагадненнем «Аб парадку пенсійнага забеспячэння ваеннаслужачых і іх сем'яў і дзяржаўнага страхавання ваеннаслужачых дзяржаў — удзельніц СНД» ад 15 мая 1992 года прадугледжана, што пенсійнае забеспячэнне сем'яў ваеннаслужачых СНД і сацыяльнае забеспячэнне ваеннаслужачых ажыццяўляецца на ўмовах і ў парадку, якія ўстаноўлены ці будуць устаноўлены заканадаўствам дзяржаў-удзельніц, на тэрыторыі якіх пражываюць указаныя ваеннаслужачыя і іх сем'і.

На жаль, да гэтага часу пытанне аб выплаце штомесячных дапамог сем'ям ваеннаслужачых, якія загінулі ў Чачні, заканадаўствам рэспублікі не вырашана. Няма таксама і якіх-небудзь пагадненняў паміж Беларуссю і Расіяй па гэтаму пытанню.

Па пытанню прызыву на тэрміновую ваенную службу другога сына. Згодна з арт. 16 Закона «Аб усеагульным воінскім абавязку і ваеннай службе» вызваляюцца ад прызыву на тэрміновую ваенную службу ў мірны час грамадзяне, родныя браты якіх загінулі ці памерлі або сталі інвалідамі I ці II групы па прычыне ранення (кантузіі), траўмы, калецтва, захворвання ў перыяд праходжання ваеннай службы. У сувязі з тым, што ў дадзенай норме не ўстаноўлена, што ад прызыву вызваляюцца грамадзяне, браты якіх загінулі толькі ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь, то цалкам справядліва, што ваш сын мае права на вызваленне ад прызыву. Прызыўнікі, якія маюць права на вызваленне ад прызыву на гэтай падставе, могуць быць прызваны на тэрміновую ваенную службу толькі па іх жаданню.

**Матэрыялы «прамой лініі» падрыхтаваў да друку Уладзімір АНДРЫЕВІЧ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

(Заканчэнне. Пачатак у №55.)

*Пісьмо з каментарыем*

## Усё законна: калгаснік — раўнапраўны падаткаплацельшчык

***Хто не ведае, што калгасніку, каб пракарміць сям'ю, трэба працаваць з ранку да ночы круглы год. І, канешне, усе ведаюць, што ў калгасе няма часу на забастоўкі і мітынгі і што самая нізкая зарплата — у сельскай гаспадарцы. Да нядаўняга часу ўрад пра гэта помніў, вызваляючы членаў калгаса ад уплаты падаходнага падатку на зарплату.***

***Але сёлета пра малазабяспечанасць і цяжкасці калгаснікаў забыліся. З і без таго мізэрных зарплат пачалі вылічваць падаходны падатак нароўні з астатнімі. А вось «даходы» нашы застаюцца на адным месцы, расці не спяшаюцца. Як жа жыць далей?***

***Вось мы і думаем: ці гэта самаўпраўства чыноўнікаў і «наверсе» пра гэта не ведаюць, ці ўсе гэтыя меры маюць законную падставу? Дапамажыце разабрацца.***

**Калгаснікі калгаса «Іскра»,** *Докшыцкі раён.*

Мы звярнуліся ў Дзяржаўны падатковы камітэт. Адказ атрымалі такі: падатак, такі, як і астатнія, калгаснікі павінны былі плаціць у адпаведнасці з Законам РБ «Аб падаходным падатку з грамадзян», што пачаў дзейнічаць яшчэ два гады таму, у красавіку 96-га. Але, улічваючы фінансавыя цяжкасці працаўнікоў вёскі, заканадаўцы прынялі 22-гі артыкул у гэтым Законе, які прадугледжваў асаблівасці падаткаабкладання гэтай катэгорыі грамадзян. Артыкул 20 у Законе «Аб бюджэце на 1997 год» таксама меў на ўвазе гэтыя асаблівасці. Але тэрмін дзеяння двух гэтых артыкулаў быў абмежаваны і скончыўся разам з мінулым годам. Заканадаўцы не палічылі патрэбным прадоўжыць дзеянне гэтых нормаў, таму з 1 студзеня 1998 года з калгаснікаў вылічваецца падатак у агульнаўстаноўленым парадку, г. зн., гэтак жа, як і з рабочых і служачых.

Усё законна. Толькі адна «дробязь» выклікае сумненні — розніца паміж даходамі рабочых і служачых і калгаснікаў. Каб неяк дапамагчы апошнім пракарміць сям'ю, трэба альбо значна павялічыць ім зарплату, альбо зноў прымаць нейкія нормы па «асаблівасцях падаткаабкладання».

*Аддзел пісьмаў «Звязды».*



*Глядзіце, не пагарджайце ніводным з малых гэтых, бо кажу вам, што Анёлы іх на нябёсах заўсёды бачаць Айца Майго Нябеснага.*

**Дабравесце ад Матфея, XVIII, 10.**

# НЯБЁСЫ НАД ПАПЯЛІШЧАМ

Я ЯНА МЕЛА РАЦЫЮ, тая жанчына, калі сумнявалася ў тым, што я здолею раскрыць гэтую тэму. Яна дзевяць гадоў завіхаецца вакол гэтых дзяцей, і вось жа, у канцы размовы са мною, уздыхае: «Не ведаю, як вы напішаце пра гэта». І на развітанне зноў паўтарае гэтую фразу. Канешне, аб гэтым можна гаварыць многа і нічога не сказаць. Ці можна расказаць пра мора радасці, якое ўмяшчаецца ў адным жэсце, ці можна перадаць акіян тугі, які сабраўся ў адным мімалётным позірку? Што ж хачу я, паглядзеўшы на гэтых дзетак на працягу пяці хвілін, расказаць пра іх?

У пачатку сустрэчы яна, стрымана выслухаўшы нагоду, з якой я прыйшла ў гэты дом, паціснула плячамі: «Мы амаль нічога не ведаем пра бацькоў гэтых дзетак. Чаму дзеці нарадзіліся такімі, як праходзіла цяжарнасць у іх мацярок, ці даследаваліся яны на выродства? Нават у маці, што прыходзяць сюды, мы ні аб чым не пытаемся».

Я спытала яе, як яна лічыць, ці патрэбны такія дзеці, можа было б лепш зрабіць так, каб яны не нарадзіліся. Яна ўстала, зрабіла некалькі крокаў, зноў вярнулася, потым паглядзела мне ў вочы і нейкім зусім іншым голасам сказала: «Як я лічу? Калі б спыталі мяне, так? Я лічу... Я лічу, што гэтых дзяцей трэба нараджаць і ратаваць да апошняга».

Яна не заплакала, але ўражанне было такое, нібы раптам хлынуў паток слёз, які змыў усё лішняе, што ўзнікае пры сустрэчы двух незнаёмых людзей: недавер, насцярожанасць, няшчырасць.

Потым яна паказала мне другі абзац дваццаць сёмага артыкула «дзіцячага» закона, дзе было напісана, што дзяржава ажыццяўляе комплекс медыцынскіх мераў, якія стрымліваюць рост колькасці такіх дзяцей. Меліся на ўвазе дзеці-інваліды з псіхічнымі або фізічнымі недахопамі развіцця.

— Медыцынскія меры — гэта і значыць: не даць ім нарадзіцца, — растлумачыла Тамара Мурашова, галоўны ўрач мінскага Дома дзіцяці № 1.

Вольга Зубовіч, філолаг, калі зацяжарыла першай сваёй дзяўчынкай, трапіла ў лякарню па захаванню. Там у яе ўзялі кроў на аналіз, які ў народзе вядомы як аналіз на выродствы. З пачатку дзевяностых такі аналіз робяць усім цяжарным жанчынам Беларусі. Калі Вольга выпісалася, аказалася, што аналіз дрэнны, яе накіравалі ў генетычную кансультацыю. Паехала яна з мужам. Найперш яе даследавалі на ультрагукавым апараце, дзе ніякіх парушэнняў у дзіцяці не выявілі. Тады ў калідоры яна дагаварылася з мужам, што, калі ім прапануюць зрабіць аборт, яны адмовяцца. Чаму Вольга вырашыла гэта менавіта пасля ультрагуку? Можа таму, што ўбачыла сваё дзіця, такое прыгожае, скручанае ўтульным камячком у сваім цудоўным «ложку». Можа таму, што зноў здзівілася, як жа гэта так здарылася, вось яна, Вольга, з усімі яе недарэчнасцямі, рукамі, нагамі, скурай — і раптам унутры яе ёсць іншы чалавек, і яна дае яму жыццё, нібы яна Творца.

На шчасце, генетык-кансультант супакоіла яе, сказала, што аналіз крыві паказаў не тыя лічбы з-за недакладна вызначанага тэрміну.

Наташа працуе акушэркай у прыёмным пакоі і духоўнай акушэркай па сумяшчальніцтву. Гэта розныя прафесіі. У лякарні яна афармляе жанчын, якія прыйшлі нараджаць, адказвае на тэлефонныя званкі. Па-за клінікай яна апякуецца над цяжарнымі, рыхтуе іх цела і дух для найважнейшага ў чалавечым жыцці акта — нараджэння. Яна лекарка, псіхолаг, спавядальнік і энцыклапедычны даведнік разам. Наташа дапамагае тым, хто вырашае нараджаць дома, яна даглядае пасля дзіця і жанчыну. Яна лічыць, што галоўная праблема сучасных бацькоў — іх няўменне любіць. Любіць увогуле. Мы ўсе няздольныя на гэта пачуццё, бо ў XX стагоддзі нараджэнне чалавека стала медыцынскай праблемай, нас «изгоняли» з чрэва нашых мацярок, клалі потым на асобны стол і не звярталі ніякай увагі на наш крык. Такім чынам, перажыўшы вялізны стрэс, мы не мелі магчымасці неяк суцешыцца, кампенсаваць яго. У тыя гадзіны, калі толькі што народжанае дзіця зносяць ад маці, губляецца здольнасць чалавека да любові. Чалавек успрымае свет як абыякавую, жорсткую, бязлітасную рэальнасць. І нясе гэтае светаадчуванне ў сваёй падсвядомасці праз усё жыццё.

Вераксо Ларыса Парфір'еўна, гінеколаг, загадчыца дванаццатай жаночай кансультацыі, якая абслугоўвае 32 тысячы мінчанак, — жанчына прыгожая і імпульсіўная, з тонкімі нервовымі рукамі. Кожны тыдзень яна выпісвае ад 9 да 15 накірункаў на вакуум. З кожнай жанчынай яна спрабуе пагаварыць. Але часцей за ўсё натыкаецца на глухую сцяну, якую будуюць вакол сябе тыя, хто рашыўся на аборт.

«Кабету або дзяўчыну ў гэтай сітуацыі хвалюе толькі адно — паспець,» — засмучаецца Ларыса Вераксо. Тым не менш, некалькі дзяцей у Мінску абавязаны сваім жыццём менавіта ёй. Ларыса Парфір'еўна паказвае мне сваю правую руку, якую час ад часу скручвае сутарга:

«Так я плачу за тое, што раблю. Трэба адмовіцца. Не магу рашыцца. У грашах згублю недзе мільён. Але тое і страшна, што я за гэта атрымліваю грошы».

За лекцыі «У абарону жыцця», якія праводзяцца ў дванаццатай жаночай кансультацыі кожны чацвер, лекарам не плацяць ні рубля.

Тамара Мурашова паказала мне некалькі фотаздымкаў, прынесла газеты. На першай старонцы «Московских новостей» за 28 красавіка 1991 года буйным планам — двухгадовы хлопчык. Гэта іх хлопчык, Ігар П., ён нарадзіўся ў жанчыны, якая прыехала з радыяцыйнай зоны. Гэта ўсё, што вядома аб маці. У Ігара няма адной рукі, а замест ног у яго маленькія ласты-клешні. Ён гадаваўся тут да васьмі гадоў. Адзіная рука яго развілася так моцна, што, калі ён абдымае, яго са смехам просяць аб літасці. Зараз Ігар за мяжой, на пратэзаванні. Ён навучыўся вельмі добра плаваць, хутчэй за тых, у каго звычайныя ногі. Яго, Ігаравы, ногі круцяцца, нібы маторчык. Тамара Мурашова паказвае, як Ігар плыве, і твар яеззяе ад захаплення. Ігар навучыўся тут чытаць, пісаць, ён разумны і незвычайна добры, ласкавы хлопчык. Калі б яго маці ў свой час даследавалі на парокі развіцця плода, Ігарка б не было. Яго б адбракавалі, як і ўсіх тых 90 дзяцей, што жывуць у мінскім Доме дзіцяці № 1.

Кроў у цяжарных жанчын правяраюць на ўтрыманне бялку пад назвай альфа-фетапратэін. Калі ўзровень яго не адпавядае норме, жанчыну далучаюць да групы рызыкі і накіроўваюць у Генетычны цэнтр. Група рызыкі — яшчэ не дыягназ. Камп'ютэр вылічвае, што ў гэтых людзей вялікая верагоднасць нарадзіць хворае дзіця. Паколькі ўзровень бялку можа не адпавядаць норме з-за недакладнага тэрміну цяжарнасці, пры двойні або нейкіх індывідуальных асаблівасцях маці, генетыкі спачатку даследуюць жанчыну метадам ультрагука. Калі сумненні застаюцца, бяруць на аналіз пункцыю каляплодных водаў. Працэдура гэта амаль бязбольная і небяспечная не столькі сама па сабе, колькі з-за стрэсу, які перажывае жанчына.

Рашыцца нарадзіць дзіця ў наш час, згадзіцеся, стала няпроста. Няпроста, выявілася, і зрабіць. Кожная шостая сямейная пара ў Беларусі — бясплодная. Хутка пры сустрэчы з цяжарнай жанчынай на вуліцы можна будзе загадваць жаданне. Акушэр-генетык Ларыса Андрэеўна Савенка лічыць, што маці дзяўчынак-падлеткаў, якія зацяжарылі, радавацца павінны, што іх дочкі падхапілі не СНІД ці іншую хваробу, а дзіця: настолькі рэдкай становіцца сама магчымасць апошняга. Але радавацца зараз цяжка нават уладальнікам атэстата сталасці і дыплома аб вышэйшай адукацыі. Вельмі ж ужо няўтульны, неўладкаваны свет, у якім жывуць дарослыя, каб з лёгкай душой заводзіць дзяцей.

Ледзь справіўшыся з панікай, што дзіця не будзе чым карміць, месяцаў у пяць, калі бацька ўжо адчувае рукой штуршкі маленькага футбаліста, сям'я раптам даведваецца, што, магчыма, дзіця народзіцца выродлівым.

«Калі б я сказала сваім жанчынам, што іх выклікае Генетычны цэнтр, тыдні за два, яны б амаль усе скінулі», — упэўнена Ларыса Вераксо. Яна папярэджвае цяжарных за дзень, стараецца ўпэўніць іх, што гэта наведванне — амаль фармальнасць, так, для ўдакладнення, што ўсё нармальна. І тут, у Цэнтры, жанчыне растлумачваюць, што толькі адна пункцыя з шасцідзесяці паказвае на храмасомныя парушэнні дзіцяці. Але чакаць выніку трэба два-тры тыдні, і ўвесь гэты час сям'я знаходзіцца ў неверагодным напружанні. Што ж адчувае дзіця?

Традыцыйна ў нас лічыцца, што дзеці нічога не адчуваюць. Так зручна думаць нам, дарослым. Для дзяржавы на самай справе больш танна, прасцей спыніць цяжарнасць, чым даглядаць потым хворае дзіця, ад якога адмовіцца маці. Яшчэ горш, калі не адмовіцца. У першым выпадку жанчына хаця працуе, плаціць падаткі, а так — двое гаротных на шыі грамадства. Бацькі звычайна пакідаюць сям'ю, не вытрымліваюць. Чаму не вытрымліваюць? Чаму безнадзейна хворых дзяцей часцей за ўсё кідаюць? Тут ужо не ў дзяржаўнай палітыцы справа, не толькі ў ёй. А ў нас, нашай бяздушнасці. Татальным папялішчы.

У нас жа і здаровымі дзецьмі грэбуюць. У сталіцы не засталося дзіцячых кафэ, навагоднія спектаклі адыгрываліся так, нібы галоўная іх мэта — прадаць мыльныя пузыры і цэлафанавыя шарыкі. Хлусіць дзецям у нас даўно стала звычайным. У Законе аб правах дзіцяці напісана, што дзеці маюць права на жыллё бацькоў, якія іх кінулі. Але скрозь гэтыя бацькі прапіваюць кватэры, пакуль дзеці гадуюцца ў інтэрнатах, і ніхто не перашкаджае гэтаму. Ды ўзяць хаця б ўсеагульнае крывадушша адносна тых жа інвалідаў. Дзяцей або не дзяцей. Ні метро, ні тратуары, ні крамы ў нас не прыстасаваныя для інвалідных калясак. Быццам іх няма. Так прасцей, зручней. Няхай сядзяць у сваіх кватэрах як хочуць. А нам нічога не бачна, і добра.

Калі Вольга Зубовіч праз тры гады зацяжарыла другі раз, аналіз крыві на ўзровень бялку зноў вылучыў яе ў групу рызыкі. Але Вольга адмовілася рабіць амніяцэнтэз (пункцыю водаў), бо нават калі дзіця сапраўды будзе невылечна хворае, вырашыла яна, яго трэба нарадзіць. Хаця б дзеля таго, каб ахрысціць. Царква дазваляе маці самой ахрысціць дзіця, якое памерла пры родах, нават проста водаправоднай вадой, прачытаўшы кароткую малітву. У Вольгі нарадзіўся здаровы хлопчык.

Тады, у Генетычным цэнтры, Вольга гаварыла сівой жанчыне-кансультанту, што тая магла б дапамагаць жанчынам, якія рызыкуюць больш за астатніх нарадзіць дзіця-калеку. Вольга мела на ўвазе духоўную падтрымку. Кансультант стомлена адказала: я і дапамагаю, бо даю накірункі на аборт.

Абсалютная большасць людзей упэўненая, што гэта сапраўды вялікая дапамога. Пакласці жанчыну з вялікім ужо жыватом у лякарню. Увесці ёй у чэрава салявы раствор, ад якога дзіця будзе доўга, на працягу некалькіх гадзін, паміраць. У агоніі. А потым яшчэ некалькі дзён маці і лекары будуць чакаць родаў, і добра, калі не пачнецца сепсіс, але пасля малако ў грудзях маці прыйдзе ўсё роўна, і грудзі будуць балець, бо не будзе каму тое малако есці. Дзіця — ярка-чырвонага колеру, з плямамі, нібы апаранае, з выразам пакуты на тварыку — жанчыне не пакажуць, хаця не выключана, што яно можа ўскрыкнуць падчас родаў. Раней, калі дзіця нараджалася ў такіх выпадках жывое, яго звычайна пакідалі ля акна, каб хутчэй памёрла. Нават калі было здаровае, пасля спынення цяжарнасці па сацыяльных паказаннях. У Мінскім дзіцячым доме ёсць хлопчык, які не памёр і на наступны дзень. Уражаныя лекары выхадзілі яго...

На самай справе дапамога заключаецца ў тым, што жанчыне даецца інфармацыя аб тым, якое дзіця яна чакае. Калі дакладна вядома, што дзіця цяжка, невылечна хворае, маці можа свядома выбраць, што для яе лепш. Цяпер яна мае магчымасць псіхалагічна і духоўна падрыхтавацца да нараджэння такога дзіцяці. Не вар'яцець ад гора, а дарасці да любові.

Ваня жыве ў сёмай групе. Тут самыя безнадзейныя. Яркія цацкі ў першым пакоі не ведаюць дзіцячых рук. Дзеці ляжаць у ложках, ніколі не ўстаюць з іх самі, яны падобныя на анучных лялек, рукі і ногі не слухаюцца іх, гнуцца ў розныя бакі. Ваня такі ж, яго маці сказалі, што ён не дажыве да двух гадоў. Зараз Ваню дзесяць. Мама прыйшла пасля званка з дома дзіцяці, лекары сказалі, што хлопчыку стала кепска. Яна прынесла яму ёгурт, ён з'еў некалькі лыжак.

— Вось бачыш, Ваня, мама прыйшла, я ж казала табе.

— Ваня, усміхніся, — просіць яго мама і гладзіць па тварыку.

— Гэтыя дзеці што-небудзь разумеюць? — пытаюся ў галоўурача, калі адыходзім ад маці і дзіцяці. Урач хітае галавой.

— Ласку разумеюць, любяць, калі іх гладзяць, цалуюць. Бачыце, якія ў іх носікі зацалаваныя.

— А маму Ваня пазнае?

— Так. Ён нават адчувае, што яна прыйшла, калі яшчэ ніхто не бачыць яе. Няня здагадваецца па ягоных бязладных рухах, неспакою, што мама недзе там, у фае, пераапранаецца.

— Ён усміхнуўся, усміхнуўся, — мама трымае Ваню вертыкальна, так, нібы ён ідзе. — Тамара Барысаўна, можна я застануся на ноч?

— Канешне.

❑

«Вы не ўяўляеце, як шмат даюць нам гэтыя дзеці: не любіць іх немагчыма. А як проста, бясхітрасна любяць яны.»

«Сюды прыходзім, нібы ў царкву, уся мітусня, непрыемнасці застаюцца недзе там, за брамай. Побач з імі сам становішся лепшым.»

«Вельмі цяжка развітвацца з імі, страшна аддаваць іх далей, у іншую ўстанову. Проста сэрца разрываецца».

«Што яны даюць? Ну не ведаю, як сказаць. Вось Ігар спытаў неяк, калі яго купалі: «А дзе мая рука?» Трэба было нешта яму адказаць, разумееце?»

**Вольга МЯДЗВЕДЗЕВА.**

# ТОЛЬКІ НАРОД МОЖА ВЫРАШЫЦЬ, ПА ЯКОМУ ЗАКОНУ ЯМУ ЖЫЦЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.)**

Разам з тым нават павярхоўны аналіз асабістых і калектыўных зваротаў у дзяржаўныя органы дазваляе зрабіць выснову не толькі аб крытычных выказваннях у адрас канкрэтных дзяржаўных органаў і службовых асоб, якія ігнаруюць, на іх думку, іх правы і законныя інтарэсы, але і аб недасканаласці дзеючага заканадаўства, што забяспечвае канстытуцыйныя правы і свабоды чалавека і грамадзяніна.

На думку Канстытуцыйнага суда, выкладзеную ў яго штогадовым Пасланні Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь і палатам парламента, у мэтах захавання канстытуцыйнай законнасці трэба было б унесці змяненні ў шэраг законаў, прыняць некаторыя новыя нарматыўна-прававыя акты. Аб гэтым падрабязна сказана ў самім Пасланні. У гэтай сувязі патрэбна звярнуць увагу на прапанову «аб неабходнасці пашырэння прававых магчымасцяў Канстытуцыйнага суда ў адносінах да абароны канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян» шляхам прадастаўлення яму права ўзбуджаць вытворчасць па справах па праверцы канстытуцыйнасці нарматыўных актаў, калі прапановы аб гэтым ідуць ад грамадзян. Усталяванне такога парадку адпавядала б не толькі інтарэсам правоў чалавека і грамадзяніна, міжнароднай практыцы, але і мэтам функцыянавання дзяржавы. А таксама на прапанову аб пашырэнні кола суб'ектаў, якія маюць права ініцыіраваць праверку Канстытуцыйным судом адпаведнасці нарматыўных актаў Канстытуцыі. І перш за ўсё за кошт уключэння ў лік такіх суб'ектаў Генеральнага пракурора. Гэтыя прапановы, на думку Канстытуцыйнага суда, можна рэалізаваць шляхам унясення дапаўненняў у адпаведныя законы, пры гэтым пакідаючы недатыкальным Асноўны закон.

* * *

Паважаныя таварышы!

Заканчваючы сваё выступленне, хачу асобна адзначыць наступнае. Арыентуючыся на новую рэдакцыю Канстытуцыі, заканадаўчыя, выканаўчыя і судовыя органы дзяржавы забяспечылі прыкметна аднолeную прававую аснову прагрэсіўнага сацыяльна-эканамічнага развіцця ў краіне. Гэта дало магчымасць кіраўнікам органаў дзяржаўнага кіравання, галін, дзяржаўных органаў, дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў у 1997 годзе актывізаваць вырашэнне эканамічных, палітычных і сацыяльных праблем.

Валавы ўнутраны прадукт у параўнанні з 1996 годам павялічаны на 10 працэнтаў, аб'ём прамысловай вытворчасці ўзрос на 17,6 працэнта, вытворчасць тавараў народнага спажывання павялічана на 21,2 працэнта, аб'ём інвестыцый у асноўны капітал узрос на 20 працэнтаў.

Па эканамічных паказчыках сярод краін СНД Беларусь знаходзіцца ў групе краін з найбольш высокімі дасягненнямі.

Вельмі наглядна выглядаюць станоўчыя вынікі ў эканоміцы Беларусі па паказчыку прыросту агульнага аб'ёму прамысловай прадукцыі. Беларусь займае тут вядучае становішча. Прырост склаў 17,6 працэнта. У іншых краінах СНД ён значна ніжэй: у Грузіі — 8,1 працэнта, ва Узбекістане — 6,5, у Казахстане — 4,0, у Расіі — 1,9, у Азербайджане — 0,3 працэнта, у Малдове, Таджыкістане і ва Украіне дапушчана зніжэнне на 2-3 працэнты.

У першы год дзеяння новай рэдакцыі Канстытуцыі ў краіне праводзіліся добра прадуманыя эканамічныя пераўтварэнні. Іх неабходнасць прадыктавана патрабаваннямі жыцця і вынікае з абноўленага Асноўнага закона.

У адрозненне ад краін з пераўтварэннямі на заходні манер гэта не толькі не прывяло да пагаршэння сацыяльнага становішча мас насельніцтва, але, насупраць, дазволіла дасягнуць вельмі прыметных вынікаў у сацыяльнай сферы. За 1997 год уведзена ў эксплуатацыю 3,3 мільёна квадратных метраў жылля з перавышэннем узроўню 1996 года на 26,9 працэнта. Рэальныя грашовыя даходы насельніцтва ўзраслі на 5 працэнтаў, а рэальная сярэднямесячная зарплата — на 14,5. Колькасць беспрацоўных скарацілася больш чым на 50 тысяч чалавек, або на адну трэць.

Новая рэдакцыя Асноўнага закона дае вялікія магчымасці для ўдасканалення работы дзяржаўнага апарату, выканаўчай улады, павышэння ролі і адказнасці кадраў.

Канстытуцыйная рэформа дазволіла не толькі замацаваць дзяржаўную ўладу, але і забяспечыць спакой і грамадзянскую згоду ў грамадстве, дабіцца зніжэння вастрыні палітычных процістаянняў.

Правільны курс беларускага кіраўніцтва ў сацыяльна-эканамічным развіцці ў поўнай адпаведнасці з Асноўным законам краіны дазволіў Беларусі мець высокія абагульняючыя паказчыкі сацыяльнага развіцця. Яны атрымалі прызнанне на міжнародным узроўні. Як вядома, вучоныя ААН штогод адсочваюць па краінах свету дынаміку такога найважнейшага паказчыка сацыяльна-эканамічнага развіцця, як індэкс развіцця чалавечага патэнцыялу. Гэты комплексны паказчык уключае ў сябе такія найважнейшыя параметры, як гадавы рэальны валавы ўнутраны прадукт на душу насельніцтва, сярэдняя працягласць жыцця людзей у краіне і ўзровень адукацыі насельніцтва. Згодна з непрадузятымі ацэнкамі спецыялістаў ААН, адлюстраванымі ў «Дакладзе аб развіцці чалавека за 1997 год», Беларусь займае па індэксу развіцця чалавечага патэнцыялу самае высокае месца сярод краін СНД у сусветным пераліку — 62-е. Спецыялісты ААН адвялі Расіі 67-е месца, Украіне — 95-е, а Таджыкістану, які замыкае табліцу краін СНД, — 115-е, Эстоніі, Літве, Латвіі, якіх нам пастаянна спрабуюць ставіць у якасці прыкладу рэформаў, вучоныя ААН адвялі адпаведна 71-е,76-е і 92-е месцы. Гэтыя факты кажуць пра тое, што Беларусь асцярожна выбрала правільны шлях эвалюцыйных пераўтварэнняў, якія адлюстроўваюць інтарэсы ўсяго народа.

І трэба прызнаць, што, нягледзячы на існуючыя эканамічныя і сацыяльныя праблемы, дасягненні нашай краіны бясспрэчныя.

Дазвольце з усёй шчырасцю павіншаваць вас з Днём Канстытуцыі і пажадаць, каб наш Асноўны закон стаў тым дакументам, які называюць настольнай кнігай. Каб менавіта ёю мы кіраваліся, калі гаворка ідзе аб нашых з вамі правах, свабодах і абавязках. Жадаю, каб кожны грамадзянін Беларусі мог з упэўненасцю сказаць, што ўсе яго правы, прадугледжаныя Канстытуцыяй, безагаворачна забяспечваюцца дзяржавай.

## Іван ЦІЦЯНКОЎ:

# «ДЗЕЙНАСЦЬ КІРАЎНІЦТВА СПРАВАМІ ПРЭЗІДЭНТА АДКРЫТАЯ ДЛЯ ГРАМАДСТВА»

**З кіраўніком спраў Прэзідэнта Беларусі Іванам ЦІЦЯНКОВЫМ гутарыць карэспандэнт «Інтэрфакса»**

**— Іван Іванавіч! Раскажыце, калі ласка, аб асноўных выніках гаспадарчай дзейнасці Кіраўніцтва справамі кіраўніка дзяржавы ў мінулым годзе.**

— Трэба адзначыць, што гаспадарчая дзейнасць з'яўляецца адным з прыярытэтных напрамкаў у разнастайным пераліку задач, якія вырашаюцца Кіраўніцтвам справамі Прэзідэнта. Гэта звязана, перш за ўсё, з неабходнасцю выканання патрабавання кіраўніцтва дзяржавы аб усямерным змяншэнні расходавання бюджэтных сродкаў на ўтрыманне апарату дзяржаўнага кіравання. Прааналізаваўшы свае магчымасці, мы прыйшлі да высновы, што ў гэтых мэтах трэба расшырыць небюджэтную дзейнасць у сістэме Кіраўніцтва справамі, а таксама сферу прапануемых нашымі прадпрыемствамі і арганізацыямі работ і паслуг для атрымання дадатковых даходаў. Такі падыход цалкам сябе апраўдаў. У прыватнасці, даход ад небюджэтнай дзейнасці ў мінулым годзе склаў 585 млрд. рублёў, у тым ліку валютных сродкаў — каля 2 млн. долараў ЗША. За мінулы год у бюджэт і небюджэтныя фонды ў выглядзе прамых падаткаў і адлічэнняў было пералічана больш як 113,5 млрд. рублёў.

З мэтай павышэння эфектыўнасці гаспадарання былі створаны дзяржаўнае прадпрыемства «Белзнешгандальінвест», дзяржаўнае вытворча-гандлёвае аб'яднанне «Белая Русь» і іншыя. У іх адрас прадстаўнікі апазіцыйных партый не раз выказвалі абвінавачанні ледзь не ў пагалоўным крадзяжы, падмане, карупцыі і да т. п. Хачу ўнесці яснасць. Так, «Белзнешгандальінвест» у мінулым годзе ажыццяўляў дзейнасць у асноўным у сферах здабычы і паставак у Беларусь рыбапрадукцыі, забеспячэння вырабамі фармацэўтычнай прамысловасці, а таксама ў правядзенні залікаў за пастаўляемы ў рэспубліку прыродны газ. Вынікі гэтай дзейнасці ніхто не хавае. У прыватнасці, шляхам фрахту замежных суднаў айчынным спажыўцам пастаўлена больш за 3 тыс. тон рыбапрадукцыі на суму 56,5 млрд. рублёў. Зроблены залік за пастаўляемы Расіяй прыродны газ на суму 256 млрд. рублёў. Прадпрыемства атрымала ў мінулым годзе 17,7 млрд. рублёў балансавага прыбытку.

Адзначу таксама, што гасразліковыя арганізацыі Кіраўніцтва справамі ў 1997 годзе атрымалі прадукцыі і аказалі паслуг на суму 714 млрд. рублёў, што ў 2,3 раза больш, чым у 1996 годзе. Да прыкладу, выдавецтва «Беларускі Дом друку» выпусціла прадукцыі і аказала паслуг на суму больш як 247 млрд. рублёў, што ў 2,17 раза больш, чым у папярэднім годзе (у супастаўных цэнах больш на 25,3 працэнта). Пры гэтым выпуск прадукцыі ў натуральным выражэнні ўзрос на 32,2 працэнта. Важна, што на гэтым прадпрыемстве не павялічылася і колькасць працуючых.

Рытмічна працуе таксама Беларускі дзяржаўны канцэрн народных мастацкіх промыслаў, у састаў якога ўваходзяць 16 фабрык мастацкіх вырабаў і 40 гандлёвых прадпрыемстваў.

З пераходам канцэрна «Белмастпромыслы» ў падпарадкаванне Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта мы прыйшлі да высновы аб неабходнасці расшырэння фірменнага гандлю. Да пачатку 1995 года канцэрнам былі адкрыты 63 гандлёвыя кропкі (34 магазіны і 29 секцый).

Радуе, што нядрэнных паказчыкаў дабіліся ў мінулым годзе і сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, падведамныя Кіраўніцтву справамі. У мінулым гэта былі эканамічна адсталыя калгасы. Ураджайнасць збожжавых тут узрасла на 8,2 працэнта, склаўшы больш за 35 цэнтнераў з гектара. Амаль на 300 кг павысіўся ў сярэднім надой малака ад кожнай каровы і склаў 3200 кг у год. Сярэднясутачныя прывагі буйной рагатай жывёлы ў 1997 годзе склалі 605 г у суткі.

За кошт уводу ў дзеянне цеплаўстановак, якія працуюць на мясцовай сыравіне (адходы дрэваапрацоўкі і дровы), у нацыянальных парках, запаведніку і лесапаляўнічых гаспадарках дасягнута эканомія 6,8 тыс. тон мазуту і 1900 тыс. кВт/гадз электраэнергіі на суму 20,1 млрд. рублёў.

**— У падпарадкаванні Кіраўніцтва справамі знаходзяцца асабліва ахоўваемыя прыродныя тэрыторыі, якія з'яўляюцца нацыянальным здабыткам Беларусі. Якія тут справы?**

— Цяпер у падпарадкаванні Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта функцыянуюць адзін запаведнік, тры нацыянальныя паркі, чатыры эксперыментальныя і тры лесапаляўнічыя гаспадаркі, якія ў цэлым займаюць плошчу 418 тыс. гектараў. Гэта буйныя шматпланавыя прыродаахоўныя арганізацыі асобай катэгорыі, у кожнай з якіх працуюць ад дзесяці да дваццаці навуковых супрацоўнікаў, а таксама некалькі соцень спецыялістаў.

Мы ўсведамляем, якая адказная задача ўскладзена на нас па захаванню гэтых унікальных аб'ектаў прыроды агульнасусветнага значэння. Затраты на іх утрыманне растуць, а бюджэтныя асігнаванні ў дзяржавы абмежаваныя. Усё гэта патрабуе пошукаў небюджэтных крыніц фінансавання, новых формаў работы, удасканалення старых. І нам гэта ўдаецца. У мінулым годзе страты ад лясных пажараў зведзены да мінімуму, пашкоджана пажарам толькі 5 гектараў лесу. Пасаджаны новы лес на плошчы 190 гектараў. Распрацаваны праекты па развіццю зноў створанага Нацыянальнага парка «Браслаўскія азёры», шэрагу лесапаляўнічых гаспадарак.

Станоўчае вырашэнне гэтых і іншых прыродаахоўных задач дасягаецца ў многім за кошт стварэння і развіцця эксперыментальных і лесапаляўнічых гаспадарак пры запаведніках і нацыянальных парках. Тут развіваюцца ў комплексе лясная і паляўнічая гаспадаркі, дрэваапрацоўка, падсобныя вытворчасці і турызм. У мінулым годзе ў час правядзення розных лесагаспадарчых мерапрыемстваў было нарыхтавана 85 тыс. куб. метраў дзелавой драўніны. З мэтай больш глыбокай яе перапрацоўкі, атрымання высакаякасных піламатэрыялаў і іншай прадукцыі перааснашчаны шэраг дзеючых і створаны 3 новыя дрэваперапрацоўчыя цэхі з сучасным абсталяваннем. У выніку было рэалізавана прадукцыі на 73 млрд. рублёў.

Агульны даход ад паляўнічай гаспадарчай дзейнасці, усіх відаў турызму ў мінулым годзе склаў 11 млрд. рублёў і 350 тыс. нямецкіх марак, што значна перавышае адпаведныя паказчыкі папярэдняга года.

**— У мінулым годзе шырокі грамадскі рэзананс выклікала перадача шэрагу адміністрацыйных будынкаў у падпарадкаванне Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта. Што б вы маглі сказаць па гэтаму пытанню?**

— На мой погляд, гэта праблема з'яўляецца ў многім надуманай і выкарыстоўваецца апазіцыяй у своекарыслівых палітычных мэтах. Сутнасць жа справы заключаецца ў тым, што для ўпарадкавання выкарыстання адміністрацыйных будынкаў і збудаванняў рэспубліканскай уласнасці, забеспячэння іх прыгоднасці да эксплуатацыі мы сапраўды прынялі ў аператыўнае кіраўніцтва 184 будынкі агульнай плошчай 1 млн. 32 тыс. кв. м, у якіх размяшчаюцца ўсе вышэйшыя рэспубліканскія органы кіравання. Толькі летась на наш баланс паступілі 52 аб'екты агульнай плошчай 226034 кв. м, у тым ліку ў г. Мінску — 28 аб'ектаў, а ў абласных цэнтрах і гарадах абласнога падпарадкавання — 24 аб'екты. Прыёмка-перадача ўсіх будынкаў была праведзена ў строгай адпаведнасці з дзяржаўнымі нарматыўна-прававымі актамі.

У 1997 годзе мы забяспечылі належную эксплуатацыю і ўтрыманне будынкаў, збудаванняў і прылеглых да іх тэрыторый, стварылі ўмовы для работы супрацоўнікаў цэнтральных органаў кіраўніцтва рэспублікі.

Летась было атрымана арэнднай платы на суму 310.144,9 млн. рублёў, што ў 2,7 раза больш, чым у 1996 годзе, і ў 10,1 раза больш, чым у 1995 годзе. З атрыманых сродкаў выдаткавана 296.544,1 млн. рублёў, з іх:

пералічана ў бюджэт і небюджэтныя фонды — 99.688,8 млн. рублёў (у 3 разы больш, чым у 1996 годзе);

пералічана за рамонт будынкаў рэспубліканскай уласнасці — 158.087,7 млн. рублёў.

З прыведзеных даных бачна, што 49,9 працэнта сродкаў, атрыманых ад небюджэтнай дзейнасці, было накіравана на рамонт адміністрацыйных будынкаў і комплексаў, а 31,5 працэнта — у бюджэт.

У 1997 годзе быў забяспечаны ўвод у эксплуатацыю шэрагу сацыяльна значных аб'ектаў. У прыватнасці, завершаны капітальны рамонт Беларускага комплексу «Юнацтва» пад Мінскам, ажыццёўлена рэканструкцыя залы пасяджэнняў Палаты прадстаўнікоў і будынка Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі.

Усе работы па капітальнаму рамонту комплексу «Юнацтва» фінансаваліся за кошт гасразліковай дзейнасці нашых падведамных структур. Павышэнне попыту на санаторнае абслугоўванне стала прычынай для прыняцця рашэння аб стварэнні санаторна-аздараўленчага комплексу «Юнацтва». Цяпер вядзецца рамонт і рэканструкцыя аднаго з яго карпусоў, у якім будзе размешчаны лячэбна-дыягнастычны цэнтр.

У бліжэйшы час мы будзем рады прыняць у санаторна-аздараўленчым комплексе «Юнацтва» ўсіх жадаючых адпачыць і падлячыцца. У канцы 1996 года ў адміністрацыйным будынку Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па прасп. Машэрава, 23 уведзены ў эксплуатацыю і функцыянуе фізкультурна-аздараўленчы цэнтр дзяржаўнага прадпрыемства «Комплекс імя П. М. Машэрава». На яго плошчах займаюцца спортам і папраўляюць сваё здароўе жыхары і госці г. Мінска, праводзяцца трэніровачныя зборы шэрагу каманд алімпійскага рэзерву і іншых арганізацый.

Лічу, што наш калектыў можа ганарыцца тым, што яго намаганнямі многім будынкам, якія з'яўляюцца помнікамі архітэктуры і нацыянальным здабыткам рэспублікі, нададзены адпаведны выгляд і яны выкарыстоўваюцца па-дзяржаўнаму, па-гаспадарску.

**— Часам вас папракаюць у тым, што дзейнасць вашага Кіраўніцтва з'яўляецца абсалютна закрытай для людскога вока...**

— Факты сведчаць, што такія сцвярджэнні не адпавядаюць рэчаіснасці. Толькі летась падведамныя Кіраўніцтву справамі прадпрыемствы і арганізацыі падвяргаліся праверкам з боку розных кантралюючых органаў 65 разоў. Нас правяралі Камітэт дзяржаўнага кантролю Беларусі, кантрольна-рэвізійнае кіраўніцтва Мінфіна, фонд сацыяльнай абароны насельніцтва, банкі і іншыя кантралюючыя органы. Акрамя таго, кантрольна-рэвізійнай службай Кіраўніцтва справамі было праведзена 11 планавых і 30 тэматычных праверак фінансава-гаспадарчай дзейнасці прадпрыемстваў і арганізацый, якія ўваходзяць у сістэму Кіраўніцтва справамі. У ходзе правядзення праверак быў выяўлены шэраг парушэнняў і ўпушчэнняў, у тым ліку ўстаноўлены факты незаконных грашовых выплат, недахвату таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў, злоўжывання службовым становішчам і іншыя парушэнні дзеючага заканадаўства. Па выніках праверак прыняты меры да ўхілення выяўленых парушэнняў і навядзення парадку на прадпрыемствах. Вінаватыя прыцягнуты да строгай дысцыплінарнай і матэрыяльнай адказнасці, некаторыя кіруючыя работнікі вызвалены ад займаемых пасад. Дадам таксама, што матэрыялы па 4 праверках накіраваны ў праваахоўныя органы. Адным словам, магу запэўніць, што ніякіх парушэнняў законнасці мы не пацерпім і не маем намеру цярпець у далейшым. Дзейнасць Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта накіравана выключна на карысць дзяржавы і адкрытая для грамадства.

## Што я думаю пра «ЗВЯЗДУ»!

**Традыцыйныя пытанні**: ***Ці выпісваю я газету «Звязда»?, Што мне ў ёй падабаецца?, Што мне ў ёй не падабаецца? — чарговаму адрасату.***

**Уладзімір МАКЕЙЧЫК, міністр спорту і турызму Беларусі:**

1. «Звязду» я чытаю рэгулярна. Выпісваць не выпісваю, аднак калі яшчэ паспяваю купіць вашу газету ў кіёску, то грошай, як кажуць, не шкадую.
2. Я гляджу на газету са сваёй «галёркі», таму шчыра скажу, што гэта адзіная газета ў Беларусі, якой я даваў інтэрв'ю. І лічу, што гэтым усё сказана.
3. Што не падабаецца ў газеце? Я б так пытанне рубам не ставіў. Проста пажадаў бы, каб больш месца на старонках адводзілі для спорту.





## СЁННЯ

### Сонца

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.28 | 18.11 | 11.43 |
| Віцебск – | 6.18 | 18.00 | 11.42 |
| Магілёў – | 6.17 | 18.00 | 11.43 |
| Гомель – | 6.12 | 17.59 | 11.47 |
| Гродна – | 6.41 | 18.28 | 11.47 |
| Брэст – | 6.43 | 18.27 | 11.44 |

### Месяц

**Поўня 13 сакавіка** ○
***З 18.54 — 17-ыя месяцавыя суткі.***
***Месяц — у сузор'і Шаляў.***

### Імяніны

**Пр. Еўдакіі, Антаніны**
**К. Мацільды, Льва, Лазара**

### Надвор'е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, на значнай частцы тэрыторыі снег. Тэмпература паветра ў Віцебску — 2—4, Гродне, Мінску, Магілёве — 1—3, Гомелі — 0—2 градусы марозу, у Брэсце каля нуля.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, 15-га невялікі снег, 16-га ўначы пераважна без ападкаў, удзень у заходніх раёнах невялікія ападкі. Тэмпература ўначы — 3—8, месцамі пры праясненнях да 13 градусаў марозу; удзень 15-га — мінус 2 — плюс 3, 16-га — 0—4 градусы цяпла.

## СТАРОНКА ПАЎЛА ГЛОБЫ

### 15 сакавіка, нядзеля

**Рэкамендацыі.** Сёння добра завяршаць справы, пачатыя раней, і не пачынаць нічога новага. Процiпаказаная цяжкая праца. Неспрыяльны час для мыцця бялізны, уборкі і прыгатавання ежы. Але можна пазбаўляцца ад старых і ўжо непатрэбных рэчаў. Вельмі прадуктыўны дзень для творчасці. Не рэкамендуюцца далёкія паездкі. Добра памінаць памерлых, чытаць малітвы. Сачыце за сваімі думкамі, менш гаварыце і не кідайце слоў на вецер, не задумвайце нічога дрэннага. Нельга сумаваць. Старайцеся быць больш на святле. Процiпаказанае забойства любой жывой істоты.

**Адзенне.** Дапускаюцца любыя колеры адзення, акрамя чорнага.

**Прыметы**. Спыненне гадзінніка — да заканчэння нейкага дрэннага перыяду ў вашым жыцці, выхад на новы ўзровень. Калі з пярсцёнка выпадае камень або дае трэшчыну — знак залежнасці, лёсу, хваробы. Выпадкова разбітае шкло або посуд — знак расчаравання ў жыцці і сварка з блізкімі. Ірвецца адзенне, адрываецца гузік — да пазбаўлення ад перашкод і галечы.

**Сны.** Збываецца толькі той сон, у час якога вы нечакана прачняцеся і запомніце яго да канца. Лепшы — у якім вы бачыце люстэрка або сябе ў люстэрку — знак ачышчэння і пазбаўлення ад няшчасця.

**Медыцына.** Процiпаказаныя ўздзеянні на ныркі, эндакрынную сістэму і падстраўнікавую залозу. Слабая скура. Можна праводзіць працэдуры па збаўленню лішняй вагі. Спрыяльны час для лячэння зубоў, хвароб галавы і вушэй.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

## ДЫНАМІКА КУРСА ДОЛАРА ЗША (*курс на канец перыяду*)




# ЦУДАЎ НЕ БЫВАЕ: РУБЕЛЬ БУДЗЕ ПАДАЦЬ ДА ТАГО ЧАСУ, ПАКУЛЬ МЫ НЕ ЗАЦЯГНЕМ ПАЯСЫ І НЕ НАВУЧЫМСЯ ЖЫЦЬ ПА СРОДКАХ

***Мабыць, сёння адна з самых незразумелых праблем для людзей краіны — становішча беларускай банкаўскай сістэмы і, канешне, далейшыя перспектывы беларускага рубля. У рэдакцыю патэлефанаваў знаёмы і запытаўся, што будзе далей з рублём. Для яго гэта важнае пытанне: чалавек будуе кватэру, таму хоча ведаць, калі лепш перавесці долары ў рублі. Чакаць далей, калі «заяц» сігане ўніз, ці пункт найвышэйшага курса долара ўжо на мяжы? Шчыра прызнацца, мне было цяжка нешта параіць яму. Зараз нават не ўсе эканамісты могуць растлумачыць сітуацыю на валютным рынку. Але ўсё ж мы вырашылі звярнуцца да кампетэнтнага, на наш погляд, суразмоўцы — дырэктара Цэнтра банкаўскіх даследаванняў пры Асацыяцыі камерцыйных банкаў Міхаіла КАВАЛЁВА. Гутарку пачалі з аналізу становішча, якое склалася сёння ў банкаўскай сістэме Беларусі.***

— На мой погляд, яго можна ахарактарызаваць як устойліва-стабільнае і адначасова ўстойліва-цяжкае. Беларуская банкаўская сістэма апошнім часам працуе з адным з самых нізкіх па ўсёй народнай гаспадарцы прыбыткам. За мінулы год ва ўсіх разам узятых банках рэспублікі ён склаў усяго 743 мільярды рублёў, што вельмі мала. А прыбытак банка, як вядома, гэта крыніца для нарошчвання ўласнага капіталу, які з'яўляецца падмуркам і апорай гэтай фінансавай установы, асновай для тэхнічнага пераўзбраення, аказання новых паслуг. З-за таго, што прыбытак невысокі, беларускія банкі так і застаюцца параўнальна невялікімі: уласны капітал усіх іх эквівалентны прыкладна 140—150 мільёнам долараў. Такім чынам, 27 банкаў рэспублікі па ўласнаму капіталу раўназначныя аднаму сярэдняму расійскаму.

**— Міхаіл Міхайлавіч, быў жа залаты час, калі банкаўская сістэма рэспублікі з'яўлялася адной з прыбытковых.**

— Залаты час існаваў па дзвюх прычынах. Па-першае, рынак банкаўскіх паслуг у рэспубліцы практычна адсутнічаў: за што б ты ні браўся, які б сегмент банкаўскіх паслуг ні пачынаў аказваць — ён быў не заняты. Па-другое, высокую даходнасць банкаўскаму сектару забяспечвала выключна высокая прыбытковасць знешнегандлёвых аперацый у перыяд, калі ўнутраныя і знешнія цэны адрозніваліся. Не сакрэт, што былі часы, калі ўнутраныя цэны мелі зусім іншую структуру, чым у свеце. Як вынік, экспарт камп'ютэраў і аргтэхнікі — сюды, а туды — нафты і газу забяспечвалі ў 1992—1994 гадах 300—400 працэнтаў прыбытку. Банкі давалі крэдыты пад падобныя аперацыі. Гэтыя крэдыты з'яўляліся высокаакупнымі, і атрымліваўся высокі прыбытак. Цяпер жа ўнутраныя і сусветныя цэны практычна зраўняліся, знешнегандлёвыя аперацыі даюць такую ж даходнасць, як і ва ўсім свеце, а высокарэнтабельных інвестыцыйных праектаў унутры рэспублікі, на жаль, пакуль вельмі мала.

**— У прэсе прамільгнула інфармацыя, што сёння доля замежнага капіталу ў банкаўскім сектары рэспублікі перавысіла 20 працэнтаў. Гэта пры тым, што ўласны капітал беларускіх банкаў, як вы сказалі, раўназначны капіталу аднаго сярэдняга расійскага банка.**

— Лічба, думаю, дзесьці блізкая: дакладна падлічыць долю ва ўсіх банках цяжка. Але тое, што яна ёсць, асабіста я ў гэтым нічога дрэннага не бачу. Наадварот, вялікае ўпушчэнне, што да гэтага часу няма палажэння аб спрошчанай працэдуры рэгістрацыі нерэзідэнтных банкаў у свабодных эканамічных зонах. Тормазам для развіцця нашых свабодных эканамічных зон з'яўляецца адсутнасць капіталу ў іх, а мы не ствараем умоў для яго прыцягнення. Калі мы далі льготны рэжым працы суб'ектам гаспадарання ў СЭЗ, трэба даць магчымасці і міжнароднаму банкаўскаму капіталу прыйсці ў свабодныя эканамічныя зоны. Для гэтага патрэбна палажэнне, якое дасць просты рэжым рэгістрацыі невялікіх банкаў у СЭЗ. Але пры ўмове, што яны будуць працаваць толькі там і не будуць мець права абслугоўваць рэзідэнтаў рэспублікі Беларусь. Яны працуюць толькі ў межах СЭЗ.

**— Канкурэнцыя. Ці «жыве» яна сёння на беларускім банкаўскім рынку?**

— На банкаўскім рынку заўсёды існуе канкурэнцыя. Канкурэнцыя за грошы ўкладчыкаў, за буйных выгадных кліентаў, у якіх астаткі на рахунках складаюць даволі вялікую суму. Канкурэнцыя існуе, безумоўна, таксама за выгадныя крэдытныя праекты, якіх, як я сказаў вышэй, не хапае. Усе банкі ў нас практычна універсальныя і ўсе яны працуюць на адным і тым жа полі. Дай Бог, каб у іншых сектарах эканомікі была такая ж канкурэнцыя. Тады, магчыма, і цэны б у нас так не раслі.

**— На вашу думку, хто ўваходзіць у пяцёрку мацнейшых фінансавых устаноў рэспублікі?**

— Магу сфарміраваць шмат пяцёрак у залежнасці ад таго, што будзем браць за паказчык, па якому банкі называюць лепшымі. Скажам, самыя буйныя банкі па колькасці прыцягнутых сродкаў насельніцтва, па выдадзеных крэдытах народнай гаспадарцы добра вядомыя: «Прамбудбанк», «Беларусбанк», «Аграпрамбанк», «Белбізнесбанк», «Знешэканомбанк», «Пріорбанк». Калі мы будзем браць нейкія іншыя крытэрыі, то ёсць невялікія банкі, але яны вельмі эфектыўна працуюць, з добрай нормай прыбытку. Ёсць сярэднія банкі, якія таксама добра працуюць. Таму адрозненне, скажам, беларускай банкаўскай сістэмы ад банкаўскіх сістэм Балтыі, дзе былі масіраваныя банкаўскія крызісы, у тым, што ў нас банкі, магчыма, і не вельмі вялікія, але ўсё робяць памяркоўна, працуюць спакойна, без асаблівай рызыкі. Я асабіста з працуючых сёння 27 банкаў не бачу ніводнага банка, які патэнцыяльна пагражае інтарэсам укладчыкаў. Іншая справа, што ёсць шмат невялікіх банкаў, якія павінны або расці, або далучыцца да больш буйных, або аб'яднацца. І многія з тых, хто сёння наіўна хоча прадацца якому-небудзь расійскаму банку, могуць ужо праз паўгода пашкадаваць аб гэтым, калі зразумеюць, што яны з кіраўнікоў стануць наёмнымі менеджэрамі расійскіх банкіраў. Мне ўяўляецца, што лепш кансалідаваць няхай малы капітал, але ўнутры Беларусі. Замежныя банкі нам патрэбны. Але ў першую чаргу я накіраваў бы іх капітал у СЭЗ. Беларусь — транзітная рэспубліка, праз яе ідуць даволі вялікія патокі грузаў з Еўропы ў Расію і сыравіны з Расіі ў Еўропу, і мы таксама маглі б стаць транзітам для фінансавых патокаў.

**— Міхаіл Міхайлавіч, ці ўсе вытрымаюць банкаўскі марафон? Магчыма, нас чакае інфармацыя аб аб'яднанні некаторых фінансавых устаноў, іх зліцці?..**

— Думаю, што будуць аб'яднанні. 27 банкаў для рэспублікі Беларусь гэта, мабыць, і зашмат. Для нашай краіны з яе аб'ёмам валавога ўнутранага прадукту цалкам дастаткова дзесьці 10 універсальных банкаў. Іншая справа, што нароўні з універсальнымі банкамі павінна б быць больш невялікіх, вузкаспецыялізаваных банкаў. Думаю, прабел у нашым заканадаўстве, ў тым, што мы не стварылі палажэння аб таварыствах узаемнага крэдытавання, аб пазыкова-ашчадных, пазыкова-будаўнічых кампаніях, магчыма, калябанкаўскіх установах, невялічкіх іпатэчна-будаўнічых альбо паштовых банках.

**— Звернемся яшчэ, Міхаіл Міхайлавіч, да тэмы, якая зараз больш за ўсё хвалюе людзей. Як вы ацэньваеце перспектывы беларускага рубля?**

— Калі мы не зразумеем, што цудаў не бывае, што рубель падае не таму, што нехта там спекулюе, не таму, што ёсць нейкія хібы ў валютным заканадаўстве, хоць гэта таксама, безумоўна, ёсць, а рубель падае перш за ўсё таму, што ў нас не збалансаваны імпарт з валютнымі магчымасцямі дзяржавы, то спыніць падзенне рубля можна толькі адным чынам: трэба зацягнуць паясы і жыць па сродках. Калі ў нас за год экспарт склаў, крыху больш як сем мільярдаў долараў — значыць трэба паспрабаваць абысціся без імпарту некаторых некрытычных тавараў. А іх імпарт, як вы бачыце, толькі расце. Усе магазіны забітыя імпартнымі таварамі.

**— Як гэта зрабіць?**

— Вельмі просты спосаб. Калі на ўсіх валютных рынках пяройдзем на рыначны курс і афіцыйны курс будзем каціраваць па рыначнаму, то імгненна ў нас павялічацца дзесьці на 70 працэнтаў (сёння разрыў паміж афіцыйным і неафіцыйным курсам 70 працэнтаў) мытныя пошліны на імпартныя тавары, і імпарт будзе крыху стрымлівацца. Іншага выйсця проста няма. Трэба жыць па сродках.

**— На ваш погляд, які сёння рэальны курс?**

— Рэальны курс кожную хвіліну мяняецца. Гэта залежыць ад колькасці рублёў у абарачэнні, якія могуць быць прад'яўлены ў якасці попыту на долары. Таму лепш гаварыць не аб тым, які курс сёння павінен быў бы быць, а лепш гаварыць аб тым, як дабіцца, каб ён заставаўся на працягу года стабільным. Можна прыняць за зыходны пункт любы курс, напрыклад, 48 тысяч, і распрацаваць сістэму мераў, якія ўздзейнічаюць на дзесятак курсаўтваральных фактараў, так, каб ён заставаўся ўвесь год стабільным. Так было ў 1995 годзе — курс 11.500 трымаўся амаль увесь год. Гэта можна зрабіць. Але сярод гэтых фактараў ёсць і такія непрыемныя, на жаль, як спыненне на час значнай эмісіі. Каафіцыент манетызацыі эканомікі ў нас невысокі, і яго трэба павышаць. Аднак гэта можна рабіць толькі пасля таго, як курс будзе стабілізаваны на працягу доўгага перыяду часу. Калі насельніцтва паверыць у стабільнасць сітуацыі і панясе рублёвыя зберажэнні ў банкі, вось пасля гэтага павольна, паступова сапраўды можна будзе нарасціць рублёвую грашовую масу. Пры той сітуацыі, якая склалася сёння, любы новы надрукаваны трыльён рублёў тут жа прад'яўляецца да абмену на долары і абвальвае курс. Таму гаварыць аб рэалістычным курсе можна толькі ў кантэксце таго, колькі мы збіраемся надрукаваць новых рублёў, каму збіраемся яшчэ павысіць зарплату, каму даць дадатковыя льготы і г.д.

**— Адзін з паважаных мною банкаўскіх спецыялістаў у адным са сваіх інтэрв'ю выказаў меркаванне, што пры захаванні сітуацыі, якая склалася, да канца года долар можа дасягнуць мяжы нават у 100 тысяч рублёў.**

— 100 тысяч гэта, магчыма, ужо і занадта, але калі мы зараз не прымем рашучых, радыкальных мераў, то пойдзем па сцэнарыю мінулага года і выйдзем на канец года на курс у інтэрвале ад 70 да 90 тысяч рублёў за долар. Але я думаю, што разважлівасць возьме верх і будуць зроблены, нарэшце, рашучыя захады па стабілізацыі курса. Стабілізаваць яго, паўтаруся, можна. Усе рэспублікі, за выключэннем Узбекістана і ваюючага Таджыкістана, навучыліся кіраваць курсам. І нам можна было б пайсці на радыкальныя меры тыпу прыняцця практычна бездэфіцытнага бюджэту. Патрэбны зараз рашучы дэкрэт прэзідэнта аб умацаванні беларускага рубля, які, па-першае, дасць гарантыі насельніцтву, што валютныя ўклады ў банках не будуць праканверсаваны ў рублі, па-другое, які ўстановіць на гэты год жорсткім чынам дэфіцыт бюджэту з улікам і жылля, і сельскай гаспадаркі (і гэты нарматыў будзе выкананы), і, па-трэцяе, які прыме некаторыя, нават непапулярныя, меры па эканоміі дзяржаўных расходаў, у першую чаргу на набыццё імпартных тавараў.

**— А што ж будзе на практыцы?**

— Да канца гэтага месяца, мяркую, гэта стане зразумела, і такія меры будуць прыняты.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## *СІТУАЦЫЯ*

# НЕ ТОЙ НУМАР

У Германіі ці Галандыі рухавік аўтамабіля — запчастка. У нас — асноўны агрэгат. І нават калі пакупнік — зусім не аферыст, а машына не крадзеная, яе, здараецца, нельга зарэгістраваць у ДАІ. Чалавек разам са сваімі «коламі», страчанымі грашыма, не гаворачы ўжо пра нервы, «завісае ў паветры».

У мінулым годзе «даішнікі» Гродзеншчыны «прытармазілі» звыш тысячы аўтамабіляў, якія трапілі да нас з-за мяжы, але не адпавядаюць беларускім рэгістрацыйным правілам па рухавіку і кузаву. Гэта значыць, што машыны, сышоўшы з канвеера «Форда», «Мазды» ці «Фольксвагена», мелі іншыя нумары вышэйпамянёных агрэгатаў. Афера?

Нярэдка бывае і так. На выгляд іншамарка амаль навюткая, бліішчыць так, што проста любата. А на самай справе гэту «прыгажуню» сабралі з запчастак, падшпаклявалі, перафарбавалі і — на рынак. Пасля першай жа зімы яна можа літаральна рассыпацца на вачах. Тавар падганяецца пад дакументы альбо дакументы — пад тавар. Каб замесці сляды крадзяжу, знішчаюцца «родныя» нумары асноўных агрэгатаў. Адпаведных спосабаў крымінальны аўтабізнес асвоіў шмат. І тут, як гаворыцца, няма пытанняў. Злачынца павінен сядзець у турме (што, на жаль, далёка не заўсёды адбываецца), машыну трэба вярнуць абрабаванаму чалавеку. А што датычыцца пакупніка, які добрасумленна «заляцеў», дык, канешне, яго шкада, але што паробіш...

Здараецца і інакш. Вось тыповая сітуацыя. Жыхар горада над Нёманам прадае «Жыгулі» госцю з расійскай глыбінкі і накіроўваецца ў замежжа за хаця і не першай «маладосці», але прыстойнай іншамаркай. Прыглядзеў нешта па густу і кішэні. Перш чым заплаціць грошы, наш зямляк правярае аўтамабіль на камп'ютэры — усё «чыста», ніякага крыміналу. Шчаслівы пакупнік думае, што справа зроблена і наперадзе толькі фармальнасці па мытнаму афармленню і рэгістрацыі машыны ў ДАІ. Але ён памыляецца. На радзіме чалавек чуе, што, маўляў, ваша аўто хаця і не расшуквае Інтэрпол, але рэгістрацыі не падлягае. Прычына — у рухавіку. Што, знішчаны сапраўдны нумар і праштампаваны новы? Не, аказваецца, цяпер у машыны не той рухавік, што быў спачатку. Але ж чаму педантычныя немцы пасля камп'ютэрнай праверкі не ўчынілі скандал? Бо ў іх гэты агрэгат адносіцца да катэгорыі хуткazаменных запчастак і пры рэгістрацыйных аперацыях не ўлічваецца. Вопытныя людзі кажуць, што ў германскіх аўтамайстэрнях асабліва не калупаюцца з адвёрткай, не «залазяць» у той ці іншы агрэгат, які дрэнна працуе, а мяняюць яго на новы. Заможныя немцы могуць сабе дазволіць такую раскошу.

Але што ж рабіць нашаму, учора яшчэ шчасліваму, а сёння проста шакіраванаму земляку? Трэба пісаць заяву ў спецыяльную камісію пры ДАІ. Там паглядзяць, што за чалавек, перакупшчык ці добрасумленны навічок, і па асобных аўтамабілях дазволяць іх продаж, але толькі па запчастках. Праўда, «не той» рухавік прадаць нельга. Відавочна, што ў такой сітуацыі нават чалавек, які ніколі не канфліктаваў з законам, можа кінуцца за паратункам да аўтаафериста, каб неяк «сплавіць» машыну і хаця б часткова кампенсаваць свае выдаткі. Асабліва не пазайздросціш тым гаротнікам, якія перш чым апынуцца ў дурнях, ужо заплацілі дзяржаве за рэстаможку.

Мо, калі ў чалавека ёсць адрас прадаўца, трэба даць яму шанц выехаць на гэтай машыне за мяжу і, магчыма, вярнуць яе чужаземцу? Такі парадак не прадугледжаны. Па логіцы нармальнага абслугоўвання грамадзян, калі існуюць падобныя рэгістрацыйныя правілы, лепей было б наогул не пускаць аўтамабіль з «не тым» нумарам рухавіка ў далейшыя «блуканні па пакутах». Няхай бы чалавек тут жа разварочваўся і ехаў назад, можа, пашанцуе яму скасаваць гандлёвую здзелку. Аднак на мяжы такога кантролю, як у ДАІ, няма, хаця дзяржаўтаінспекцыя гэта пытанне ўжо ўзнімала.

На думку начальніка Гродзенскай абласной ДАІ Вітаслава Лясоцкага, праблему можна было б працэнтаў на 80 вырашыць, калі ўвесці еўрапейскі стандарт рэгістрацыі аўтамашын. Гэта значыць, што нумар кузава пры рэгістрацыі павінен улічвацца, а нумар рухавіка — не. Не будуць тады «гарэць» сумленныя пакупнікі патрыманых іншамарак, якія не задумвалі ніякага падману. А «даішнікі» яшчэ больш сканцэнтруюць свае намаганні на барацьбе з аўтажулікамі.

Пакуль жа, падабаюцца сённяшнія рэгістрацыйныя правілы альбо не, але іх трэба выконваць. Што ж можна параіць тым, хто рыхтуецца набыць машыну, каб не апынуцца, як многія небаракі, ля «разбітага карыта»?

— Людзям, якія купляюць аўтамабіль на нашых рынках, — гаворыць Вітаслаў Лясоцкі, — раю не спяшацца з фінансавым разлікам, а спачатку звярнуцца ў ДАІ, каб праверыць усе «моманты» наконт гэтага транспартнага сродку. Мы параім, на што трэба звярнуць увагу пры ажыццяўленні гандлёвай здзелкі ў той ці іншай краіне.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# У ПЯТНІЦУ, 13-га НЯБЁСЫ РАСЧЫНІЛІСЯ...

**Пазаўчора на цэнтральную частку Расіі выпала амаль месячная норма снегу — такімі былі вынікі снегападу, што быў выкліканы вялікім цыклонам, які ахапіў практычна ўсю Еўропу. Толькі на адну Маскву за суткі выпала каля мільёна тон снегу, што вымусіла кінуць на барацьбу са стыхіяй усе сілы. Штодзень снег у расійскай сталіцы вывозяць дзве тысячы самазвалаў, але ўсё роўна ў часы «пік» у горадзе назіраюцца велізарныя аўтамабільныя пробкі. Выпадкова ці не, але тая ж навала абрынулася на Беларусь праз дзень — у пятніцу, 13-га...**

У гэты дзень у Мінску ў 10 гадзін раніцы ў гарвыканкаме адбылася тэрміновая нарада сталічных уладаў і зацікаўленых структур, у тым ліку і сілавых. Як паведаміў намеснік начальніка штаба Грамадзянскай абароны па г. Мінску Ігар Рашатняк, надзвычайных сітуацый у сталіцы (на момант гутаркі ў 15 гадзін. — Аўт.) не зафіксавана. Не было ніякіх праблем з цяплом, святлом, транспартным забеспячэннем двухмільённага горада. Бадай, адзінай сур'ёзнай праблемай стала расчыстка вуліц горада. У адпаведных сталічных службаў не хапае спецыяльнай тэхнікі, таму дапамогу ім аказваў асабісты састаў унутраных войскаў мінскага гарнізона. Па словах Ігара Рашатняка, каля 200 байцоў былі кінуты на расчыстку ад снегу прыпынкаў грамадскага транспарту ў тых вузкіх месцах, дзе падыход тэхнікі немагчымы.

Больш спакойнай была абстаноўка ў Мінскай вобласці. Як паведаміў начальнік штаба Грамадзянскай абароны вобласці Уладзімір Кузькін, яшчэ пазаўчора ў 9.45 і 12.10 (з прагнозам на ноч) было перададзена папярэджанне аб магчымым снегападзе і моцным ветры са скорасцю 14—15 метраў у секунду. Як заўважыў Уладзімір Ільіч, «чакалі горшага, але абышлося». Дзякуючы таму, што снег сухі, не зафіксавана ніякіх надзвычайных здарэнняў у прыватнасці на лініях электраперадач. Толькі пазаўчора ў Слуцкім раёне на нейкі час адключылася электрычнасць, але праблема была вырашана за некалькі гадзін.

Як стала вядома на час падрыхтоўкі матэрыялу, ніякіх катаклізмаў, на шчасце, не адбылося і ў цэлым па краіне: камунальныя службы працавалі спраўна. У Гродзенскай і Брэсцкай абласцях у гэты момант наогул было сонечна, снегапад быў у іншых рэгіёнах, але без цяжкіх наступстваў.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# Снег усё ідзе, але бяды нарабіць ён не павінен

Як паведамілі рэдакцыі ў Гідраметцэнтры рэспублікі, за апошнія суткі, а дакладней з 6 гадзін 12 сакавіка па адпаведны час 13 сакавіка, на тэрыторыю Беларусі выпала ападкаў ад аднаго да 17 міліметраў. Найбольш значныя ападкі, каля 10—17 міліметраў, «зваліліся» на паўночным усходзе Гомельскай вобласці і на ўсходзе Магілёўскай і Віцебскай абласцей. У сталіцы рэспублікі ападкі за апошнія суткі, склалі не болей 6 міліметраў. Трэба зазначыць, што гэтыя паказчыкі ападкаў даюць сіноптыкі ў пераліку на ваду. Так, на большай частцы тэрыторыі краіны ўсталявалася снежнае покрыва ад 1 да 14 сантыметраў.

Вялікія снежныя хмары прыйшлі да нас разам з цыклонам ад Чорнага мора. Цэнтр паўднёвага цыклону ў 3 гадзіны ночы 13 сакавіка стаяў над Смаленскай вобласцю. Але, нягледзячы на вялікую моц цыклону, ападкаў амаль не было ў Гродзенскай і Брэсцкай абласцях. Далей цыклон будзе паступова адыходзіць ад нас, накіраваўшыся ў бок Пецярбурга. У сувязі з гэтым ападкі паціху спыняцца.

Як зазначыла галоўны сіноптык краіны Таццяна Яскові, у бліжэйшыя дні наўрад ці магчыма чакаць значнага пацяплення. Уначы будзе яшчэ марозна, удзень — каля нуля. Таццяна Міхайлаўна адзначыла, што хвалявацца наконт вялікіх ападкаў, як у Маскве, нам пакуль не трэба. Калі ў сталіцы Расіі за суткі іх выпала больш за месячную норму, то ў нас самыя вялікія паказчыкі ападкаў (17 міліметраў) значна ніжэйшыя за месячную норму (24—42 міліметры).

**Сяргей КУРКАЧ.**



Фота Аляксандра БЕЦЕВА.

**«Звязда» ужо пісала пра непрывычныя з'явы на Беларусі — ураганы, смерчы, паводкі. Аказваецца, гэта далёка не поўны пералік таго, што можа здарыцца ў нас па волі прыроды.**

**У гэты раз гаворка пойдзе пра рэдкія, але ад гэтага яшчэ больш захапляючыя і незвычайныя прыродныя з'явы — паўночныя ззянні.**

**Раскажам мы і аб такіх экстрэмальных метэаралагічных з'явах, як зімовыя навальніцы і летнія снегапады. Сапраўды, на што толькі не здатная прырода.**

**Аб гэтым сведчаць шматлікія факты са «скарбонкі» кандыдата геаграфічных навук Аляксандра Макарэвіча.**

# І над Беларуссю бывае... паўночнае ззянне

### *Вясёлкі ззялі над сталіцай*

Нягледзячы на загадкавасць і незразумеласць, такая з'ява, як паўночнае ззянне, мае свае заканамерныя прычыны. Калі тлумачыць з пункту погляду навукі, гэта свячэнне верхніх разрэджаных слаёў атмасферы, якое выклікана ўзаемадзеяннем атамаў і малекул на вышыні 90—1000 кіламетраў з зараджанымі часціцамі большых энергій (электронамі і пратонамі), што пранікаюць у зямную атмасферу з космасу. Пры ўдарах з састаўляючымі верхняй атмасферы (кіслародам і азотам) апошнія пераходзяць у стан з больш высокай энергіяй. Вяртанне ў стан раўнавагі адбываецца шляхам выпраменьвання квантаў святла характэрных даўжынь хваляў, г. зн. уласна паўночным ззяннем. Сваю назву яны атрымалі з-за таго, што менавіта для гэтых абласцей Зямлі яны з'яўляюцца найбольш частымі. «Бліскавіцы іграюць», — гавораць жыхары паўночных шырот.

За апошнія паўвека паўночныя ззянні адзначаліся ў Беларусі ў сакавіку 1940-га, красавіку 1946-га, студзені 1949-га, кастрычніку 1961-га, лютым 1983 года, а найбольш інтэнсіўна — у 1957—1958 гадах.

Асабліва яркім і велічным было паўночнае ззянне над Мінскам 30 верасня 1957 года. Сухое навуковае вызначэнне ніяк не можа перадаць наступнай карціны. Патокі зараджаных часціц, што ўзнімаліся і ішлі ад Сонца, выклікалі свячэнне зараджаных слаёў атмасферы Зямлі. Спачатку пасвятлела, як перад усходам сонца, паўночная частка гарызонту, потым ззянне набыло барвовую афарбоўку, нібы зарыва далёкага і моцнага пажару. Яно паступова разгаралася, на фоне чырвонага асвятлення неба пачалі ўзнікаць белыя і зеленаватыя слупы, што апускаліся да лініі гарызонту і перамяшчаліся з усходу на захад. Пры гэтым некаторыя з іх нагадвалі прамяні пражэктара, якія з'яўляліся з-пад гарызонта. У перыяд найвялікшага развіцця ззяння ўсімі колерамі іскрылася вясёлка. Гэтая з'ява працягвалася каля дзвюх гадзін.

Адным са сведкаў паўночнага ззяння ўжо 1958 года была і мая цешча Святлана Васільеўна Нікалаева, якая ў той час працавала гідраназіральніцай у абсерваторыі.

— Гэта было бліжэй да зімы, было холадна, але снег яшчэ не выпаў. Вечарам недзе, каля 21-22 гадзін, я вярталася дамоў з абсерваторыі. Уражанне ад паўночнага ззяння, якое «вісела» над Мінскам, было як ад фіранкі з кісяі. Празрыстае, дрыготкае марыва закрывала неба, падавалася, што яно калышацца. У адрозненне ад бачанага пазней па тэлебачанню каляровага, гэтае ззянне было аднародным. Да гэтага часу добра памятаю яго колер — малінавы. Мінск у той час быў не такі шматлюдны, як зараз, таму на вуліцах людзей амаль не было. Я назірала паўночнае ззянне хвілін сорак, а потым пайшла дамоў.

### *Снег выпаў у чэрвені*

Вялікую цікавасць уяўляюць экстрэмальныя метэаралагічныя з'явы на тэрыторыі Беларусі. Сярод іх у першую чаргу трэба выдзеліць зімовыя навальніцы. Як вядома, навальнічныя з'явы звычайна назіраюцца ў цёплую пару года, сярод зімы яны бываюць вельмі рэдка. Так, напрыклад, у Мінску зімовыя навальніцы адзначаны ў снежні 1951-га, студзені 1958-га, лютым 1990 гадоў. Асабліва незвычайнай і запамінальнай была навальніца ў снежні 1982 года, напярэдадні якой над тэрыторыяй Паўночнай Атлантыкі і Скандынавіі на працягу некалькіх сутак развівалася інтэнсіўная цыкланічная дзейнасць. У ноч з 15 на 16 снежня на Беларусі ў зоне цёплага фронту цыклону назіраліся інтэнсіўныя снегапады і завірухі, якія потым змяняліся дажджамі. У зоне халоднага фронту, які праходзіў удзень 16 снежня са скорасцю 80—100 кіламетраў у гадзіну, у выніку вялікіх кантрастаў тэмператур у атмасферы ўтварылася кучава-дажджавая воблачнасць. Шквалісты вецер скорасцю да 20—25 метраў у секунду суправаджаўся ліўневымі ападкамі і навальнічнымі з'явамі.

У ноч перад навальніцай у Мінску стала холадна, на зямлю густа пасыпаліся белыя камякі снегу. Але ўжо да раніцы снегавое покрыва ператварылася ў лужыны каламутнай расталай вады. У поўдзень 16 снежня над горадам навіслі цяжкія хмары, і на яго вуліцы абрынуўся суцэльны шквал снегу, дажджу і граду.

Вадзіцелям гарадскога транспарту прыйшлося нават уключыць фары машын. Толькі на некалькі хвілін паказалася па-веснавому ласкавае сонейка, як раптам узнялася навальніца. Ад грымот здрыганулася зямля...

А вось рэдкая метэаралагічная з'ява крыху іншага роду — летні снегапад. Яго можна было назіраць у чэрвені 1962 года. Беларусь у гэты час знаходзілася пад уплывам паўночнай перыферыі цыклону, які ўтварыўся на паўднёвым захадзе рэспублікі, а з паўночнага ўсходу ўварвалася вельмі халоднае і вільготнае арктычнае паветра, што і выклікала выпадзенне снегу. У Мінску, напрыклад, 6 чэрвеня снежнае покрыва ляжала на працягу дзвюх з паловай гадзін.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*КІНО*

# СЕРЫЯЛ ЗДЫМАЎСЯ НА «БЕЛАРУСЬФІЛЬМЕ»



На наступным тыдні на ГРТ пачынаецца дэманстрацыя тэлесерыяла «Зала чакання», які на працягу трох месяцаў здымаўся на студыі «Беларусьфільм» рэжысёрам Дзмітрыем Астраханам.

Побач з расійскімі знакамітасцямі — Вячаславам Ціханавым, Міхаілам Ульянавым, Міхаілам Баярскім, Ігарам Касталеўскім, Нінай Усатавай і іншымі — здымаліся і многія беларускія акцёры — Мікалай Яроменка, Генадзь Аўсяннікаў, Міхаіл Пятроў, Алег Корчыкаў. У адной з галоўных роляў дэбютавала маладая актрыса тэатра імя Янкі Купалы Іна Аляксеева. Галоўную дзіцячую ролю ў фільме выканаў мінскі школьнік Інакенцій Січкар.



**НА ЗДЫМКАХ:** фрагменты работы над фільмам.

**Аляксандр ДЗМІТРЫЕЎ.**

*КРЫМІНАЛ*

# У Мінску — чарговае прафесіянальнае забойства?..

У чацвер, у Мінску на вуліцы Цнянскай ля дома № 2 прагучалі тры выстралы. Мяркуючы па почырку забойства, ёсць падставы сцвярджаць, што на месцы злачынства пабываў прафесіянал. Ахвярай злачынцы стаў 26-гадовы камерсант, аб спецыфіцы дзейнасці якога рэдакцыі, па папярэдняй інфармацыі МУС, нічога не вядома. Як удалося высветліць, «разборкі» адбыліся непадалёк ад корпуса дома, дзе жыў забіты. Невядомы зрабіў тры стрэлы: два з якіх ва ўпор былі зроблены ў грудзі, а трэці, кантрольны, у галаву. Пачалося следства.

У гэты ж дзень недарэчная смерць напаткала траіх мінчан, якія былі знойдзены а палове дзесятай раніцы ў гаражы паблізу вёскі Масюкоўшчына. Гаспадар гаража і двое яго знаёмых знаходзіліся ў салоне аўтамашыны «Форд». Трагічнае здарэнне, мяркуючы па знешніх прыкметах, адбылося з-за атручэння чадным газам.

**Ігар ГРЫШЫН.**



Малюнак Марыны ГАРЭЛАВАЙ.

## АНЕКДОТ «Ў БОТАХ»

На занятках па тактыцы:

— А зараз, таварышы салдаты, падыміце галовы і паглядзіце ўверх. Акурат над вамі — Палярная зорка.

— Таварыш сяржант, шапкі валяцца!

— Зразумеў... Узвод, два крокі назад, шагам — марш!

## АНЕКДОТЫ

Група замежных турыстаў наведвае калгас, які спецыялізуецца на развядзенні авечак і са здзіўленнем бачыць пяцярых мужыкоў, якія скубуць адзін у аднаго валасы, кідаюць у кошык і пры гэтым вельмі смяюцца.

— Мсье, што тут здарылася? — пытаюць замежнікі ў экскурсавода.

— Справа ў тым, што іх калгас не выканаў план па продажы воўны дзяржаве, — адказвае той, — і яны стараюцца пакрыць недастачу.

— А чаму ж яны так весяляцца?

— Справа ў тым, што суседні птушкаводчы калгас не выканаў план па продажы дзяржаве яек...

■

— Што ў цябе з тварам?

— Быў на рыбалцы, камар пакусаў.

— Адзін камар і так моцна?

— А ён, паразіт, перад смерцю паклікаў сваю банду.

■

— Кім працуеш?

— Парашуты складваю.

— Занятак не з лёгкіх.

— На маю працу яшчэ ніхто не прыходзіў скардзіцца.

■

— Эх, Вано, каб ты ведаў, як гэта цяжка — страціць жонку...

— Ведаю, Гогі, ведаю! Практычна немагчыма...

■

У купэ цягніка — мужчына і жанчына.

— Еду ў санаторый, — кажа яна, — дома застаўся муж. Я ўпэўненая, што ён мне будзе здраджваць.

— У мяне такая ж сітуацыя, — кажа яе суразмоўца, — падобны грэх і за маёй жонкай водзіцца.

Калі падышоў час класціся спаць, мужчына кажа:

— А што, калі нам адпомсціць сваім паловам?

— Я не супраць, — згадзілася жанчына.

Калі помста была закончана, партнёр перабраўся на сваю лаўку і ўлёгся спаць. Праз нейкі час чуецца голас жанчыны:

— Не ведаю, як вам, а мне, калі ўяўляю, што зараз вырабляе мой муж, хочацца яму помсціць і помсціць!

— Вы ведаеце, — адказвае той, — я сваёй жонцы ўжо дараваў.

## ЛАПАЦЬ

ГУМАРЭСКА

Як толькі Аляксей Крупік выйшаў з аддзела, Зінка — капіроўшчыца выскачыла з-за стала на сярэдзіну кабінета.

— Я ўжо не магу... ужо ўсё, — завішчала яна. — Усе пра яго жонку толькі і гавораць... Увесь завод шуміць, а ён лапаць, не мужык, а лапаць!..

Зінка хадзіла ў карункавых кофтачках і «мікалаеўскіх дзеўках», таму і лічыла, што ў сямейных справах разбіраецца. У чужых, вядома.

— А што здарылася? — падняў над кульманам лысіну Іванавіч.

— І вы не ведаеце? — лягла грудзямі на стос чарцяжоў Альбіна. Яна толькі што выйшла з дэпрэсіі пасля другога разводу. — Ах, вы ж былі ў водпуску. Гуляе. Круціць напрапалую. Трэба было б сказаць Алёшу.

— А хіба хто ў нагах стаяў? — разважліва сказаў Іванавіч і схаваў лысіну за кульман. Іванавіч быў заўзятым рыбаком, і сексуальныя праблемы не хвалявалі яго.

— Вядома, калегі, тут штосьці ёсць, — адзначыў начальнік аддзела і пачаў лёгенька круціць алоўкам у вуху. — Можа і сапраўды намякнуць Крупіку?

— І я пра гэта, — зялёныя вочы Альбіны загарэліся. — Вось вы, Іван Трафімавіч, і скажыце!

— Думаю, што сказаць трэба, але далікатна, не ў лоб, — начальнік разглядаў аловак. — Аляксей — натура тонкая...

— Лапаць ён, а не натура. Я б на яго месцы даўно развялася б, — кінула Зінка і вярнулася на сваё месца.

— Не трэба так рэзка. Але каб Макаравіч па-сяброўску намякнуў, то іншая справа.

Макаравіч — гэта я. З Крупікам не сябрую, але ў добрых адносінах. Нашы кульманы побач, і за рабочы дзень мы гаворым не толькі пра прэс-формы.

Я паабяцаў, што сёння ж пасля работы намякну Крупіку.

Прахадную мы пакінулі ўдвух, а на скрыжаванні, замест таго, каб развітацца і павярнуць направа, я прапанаваў Аляксею заглянуць у забягалаўку «Бэзавы туман».

Узялі па чарцы і селі за стол у даволі ўтульным закутку. Крупіку за трыццаць і ён маладзей за мяне на дзесяць гадоў. Аляксей — тыповы флегматык. А жонка ў яго бойкая.

Калі выпілі і ўнутры крыху пацяплела, я вырашыў намякнуць. І пачаў здалёк.

— Ведаеш, Лёша, заглянуў я днямі да аднаго знаёмага паляўнічага і бачу, у яго над люстэркам рогі ласіныя вісяць. Такія разгалістыя. Як стане гаспадар ля люстэрка, дык рогі якраз над яго галавой, — расказваю я і назіраю за хлопцам. — Вельмі неяк сімвалічна.

Тут Крупік схамянуўся і сунуў руку ў кішэню.

— Макаравіч, я зараз яшчэ па чарцы вазьму, — сказаў і падаўся да прылаўка.

«Здагадаўся, — падумаў я, — тонка намякнуў». Лёша прынёс па сто грамаў і, як мне падалося быў крыху ўсхваляваны. Чокнуліся. Я хацеў далей пра рогі ласіныя расказваць, але Крупік мяне апярэдзіў.

— У цябе, Макаравіч, хто-небудзь на «Вольве» ездзіць? Белая...

Я ўпэўнена сказаў, што не. Мая радня і знаёмыя на «Масквічах» фарсяць.

— Так і думаў, — уздыхнуў Аляксей і зноў падаўся да прылаўка. Нічога не магу зразумець. Крупік не той чалавек, каб на гарэлку грошы траціць. Расстроіўся, відаць.

— Калі ў нас такая шчырая размова і ты сам пра рогі намякнуў, то я бачу, што ты ў курсе справы, — хлопец дакрануўся да маёй рукі.

— А яшчэ лапцем абзывалі. А чалавек вунь унутры ўсё трымаў. Ведаў і цярпеў, — падумаў я і ў сваю чаргу спачувальна сціснуў руку Аляксея.

— У каго толькі не бывае? Я разумею, жонка маладая, — кажа Крупік і жаласліва глядзіць мне ў вочы.

— Кінь ты, Лёша. Усё перамелецца, — супакойваю я і іду да прылаўка.

— Можа, калі так сур'ёзна, то лепей было б развесціся, — разважаю я. Мы ўжо крыху ап'янелі і таму вельмі востра адчуваем драматызм сітуацыі.

— Калі б не дзеці, то ўсё было б прасцей, — уздыхнуў Крупік, — у любым выпадку, такую справу трэба вырашаць на цвярозую галаву.

Я пагадзіўся, і мы пакінулі «Бэзавы туман». Абняліся і разышліся.

Назаўтра да мяне падыходзілі калегі і запытальна ківалі на кульман Аляксея. Я паказваў вялікі палец левай рукі і ўсміхаўся. Усе былі задаволеныя.

А потым Крупік паклікаў мяне перакурыць. Мы стаялі ў туалеце і пускалі дым у бок пісуараў.

— Ну і што? Будзем разводзіцца? — спытаў Лёха. Я вылупіў вочы.

— Чаго глядзіш? То, Макаравіч, твая маладая жоначка, а не мая, з джыгітам на «Вольве» катаецца, — растлумачыў Крупік і кінуў недакурак у пісуар.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

# КРАСА І СІЛА



АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

Самая вялікая ўдзячнасць паэту — слёзы чытача. Ноч напралёт чытаў вершы Раісы Баравіковай... Не люблю, калі чалавека ды і ўсялякую жывую істоту таўруюць: быццам бы Баравікова — паэтка кахання. У гэтым стэрэатыпе, па вялікаму рахунку, вінаватыя крытыкі. Сапраўды, Рая безабаронная, і ў той жа час моцная каханнем.

Але найшчаслівейшая яна любоўю. Ёю Рая свеціцца і дзеліцца з людзьмі не толькі ў паэзіі:

*... Бываю часта*
*рознаю ў жыцці:*
*і сейбіткай,*
*і часам пабірахай...*



**Раіса БАРАВІКОВА**

### ЛЮБОЎ

***З лета стог, абкладзены кляёнкай.***
***На штыкетах — жоўтыя глякі...***
***Недзе мама бразгае даёнкай,***
***недзе тата носіць смалякі...***

***Там заўжды здаецца ўсё нязменным, —***
***дворыкі, прыязнасць і давер,***
***а за хмару дзень ляціць праменны***
***і сухое лісце — за каўнер.***

***Ды не сумна змучанай прыродзе, —***
***дзеля дзён нязнаных адгарыць...***
***Неўпрыкметку з будучым стагоддзем***
***клопат мой спрабуе гаварыць.***

***З кім жа там спусцелы лес гамоніць?***
***Хаты люд склікаюць пакрысе...***
***Праца рукі рупныя натоміць,***
***але дух няскораны ўзнясе.***

***Як агніста долю выкрасала***
***не адну ў лясістай той глушы...***
***Я пра гэта мала так пісала —***
***ўся любоў засталася ў душы.***

**Анталогію вядзе Анатоль СЫС.**





## ЖАРТУЮЦЬ «ЗОРКІ»

**Валерый МЕЛАДЗЭЕ:**

Маленькі хлопчык разглядвае Венеру Мілоскую. Бацька яму кажа:

— Бачыш, што бывае, калі грызуць пазногці.

**Яўген ПЕТРАСЯН:**

Студэнт вывучае блыху — кладзе яе на белы ліст паперы і кажа:

— Скачы!

Блыха скача. Студэнт адрывае ў блыхі лапкі, ізноў кладзе яе на ліст белай паперы і загадвае:

— Скачы!

Блыха не скача.

Студэнт запісвае ў сваю будучую курсавую: «Як удалося высветліць шляхам доўгіх доследаў, органы слыху ў блох знаходзяцца ў лапках. Калі іх адарваць, блыха глухне».

**Антон ТАБАКОЎ:**

Лорд тэлефануе дадому, трубку падымае дварэцкі:

— Добры вечар, Джэймс!

— Добры вечар, сэр!

— Як справы, Джэймс?

— Усё нармальна, сэр!

— Чым займаецца мая жонка, Джэймс?

— Яна ў пасцелі з нейкім мужчынам, сэр!

— Джэймс, хуценька вазьмі ў шуфлядцы майго стала пісталет і застрэль яго.

— Добра, сэр, не кладзіце трубку.

Чуецца шарканне ног, пасля нейкая валтузня, выстрал.

— Сэр, я зрабіў усё як вы прасілі. Той мужчына хацеў уцячы праз зімовы сад, але я дагнаў яго і застрэліў.

— Джэймс, але ж у нас няма ніякага зімовага саду!

— Прабачце, які вы нумар тэлефона набралі, сэр?

ЗВЯЗДА
14 сакавіка 1998 г.
11

## СЛУЖБА ЗДАРОЎЯ

# Жывіце доўга!

**Людзі заўсёды хацелі жыць доўга. Яны настойліва шукалі «элексір маладосці». Праўда, пазней упэўніліся, што такі універсальны сродак існуе толькі ў казках, марах і фантастычных раманах. Аднак ёсць людзі, якія жывуць даўжэй за «норму».**

Вядома мноства рэцэптаў падаўжэння жыцця, але галоўныя такія:




*не курыць, рэгулярна займацца фізкультурай, не ўжываць спіртных напіткаў, штодзённа спаць па сем-восем гадзін, трымаць у межах нормы вагу цела, абавязкова снедаць раніцай, не есці ў прамежках паміж асноўнымі прыёмамі ежы.*

Аднак усе гэтыя, бясспрэчна, карысныя парады да нядаўняга часу былі толькі добрымі пажаданнямі, і вось цяпер спецыялісты паставілі справу на навуковую аснову. Старанныя даследаванні паказалі, што калі выконваць ад адной да трох любых з пералічаных парад, то ў саракапяцігадовага мужчыны наперадзе будзе яшчэ 21,6 года жыцця, а калі прытрымлівацца шасці-сямі ўказанняў, то гэты тэрмін павялічыцца да 33 гадоў.

У дадатак да гэтых рэцэптаў можна прывесці яшчэ шэраг карысных парад састарэлым людзям, і не толькі ім.

- Харчуйцеся правільна. Ешце маленькімі порцыямі і па магчымасці часцей. Ежа павінна ўтрымліваць усе віды неабходных арганізму рэчываў — бялкоў, вугляводаў, вітамінаў, але — мала тлушчаў. Часцей ужывайце рыбу.
- Піце правільна. Гэта значыць, што вадкасці ў рацыёне павінна быць многа, але будзьце вельмі асцярожнымі ў дачыненні да піва, віна, а тым больш моцных напіткаў.
- Лепшы спосаб трымаць сябе ў форме — хада, а самы добры танізуючы сродак — свежае паветра.
- Будзьце добразычлівымі. Гэта прыцягне да вас людзей.
- Будзьце асцярожнымі ва ўчынках. Ваша жыццё залежыць ад яснасці галавы і цвярозага розуму.
- Пазбягайце празмернага прыёму лекаў, карыстайцеся толькі тымі з іх, што прызначыў ваш доктар. Не прымярайце да сябе хваробы знаёмых.
- Нельга ўпадаць у роспач, крыўдаваць на тых, хто вас акружае, сварыць маладых, страшыцца новага, а мілым дамам — апранаць сукенкі цёмных тонаў і хадзіць на высокіх абцасах.

**На заканчэнне хочацца сказаць усім (асабліва жанчынам): часцей усміхайцеся! На эканомце на ўсмешках! Гэта няпраўда, прычыны маршчын — не яны. Маршчыны — гэта шрамы ад ран, якія прычыняе жыццё, таму пастарайцеся самі зрабіць яго лягчэйшым, не чакаючы, пакуль хтосьці — выканаўчыя ці заканадаўчыя ўлады — паднясуць вам на талерачцы здароўе і дабрабыт. Вучыцеся не старэць!**

# Парады бывалых

❑ Калі вам неабходна ўкруціць шрубу ў пластмасу, то спачатку свердлам прасвідруйце ў ёй адтуліну меншага дыяметра і затым разагрэйце шрубу, якая падплавіць пластмасу і надзейна стане ў гняздо.

❑ Адшукаць глыбока забітыя і зашпакляваныя цвікі дапаможа намагнічаная іголка на нітцы. Яе трэба рухаць уздоўж дошкі на вышыні 1 мм, насупраць цвіка іголка адхіліцца і дакладна вызначыць месца. Такі метад спатрэбіцца, напрыклад, пры рамонце падлогі.

❑ Звычайна струны для сушкі бялізны нацягваюць уздоўж ванны, і гэта правільна. Няправільна вешаць бялізну на гэтыя струны. Калі вы яе падвесіце пры дапамозе прышчэпак упоперак струн, прастора ванны будзе выкарыстана больш эканомна.



## МУЖЧЫНА Ў ЛЮСТЭРКУ

# Важныя дробязі

**Што ні кажыце, але сустракаюць па апратцы. І мужчын таксама. Іншы раз дробязь — старамодны касцюм, нясвежая кашуля або абуральна яркія шкарпэткі, — можа паставіць крыж на вашай кар'еры. Спадзяёмся, што нашы рэкамендацыі дапамогуць вам пазбегнуць прыкрых памылак.**

Умела падабраныя аксесуары раскажуць пра многае: пра густ іх уладальніка, пра яго становішча ў дзелавым свеце і нават пра велічыню яго даходаў.

Галоўнае патрабаванне да аксесуараў — **умеранасць і гармонія.** Яны не павінны «крычаць», яркай плямай прыцягваць лішнюю ўвагу да сябе і іх уладальніка. У гэтым сезоне пануе стыль «элегантны гангстэр» з лёгкай настальгіяй па 30-х гадах — запінкі, кашнэ, аб'ёмны гальштук, скураныя пальчаткі.

■ ***Запінкі*** паступова зноў уваходзяць у моду, але ўжо як элемент вячэрняга касцюма. Паколькі асноўныя колеры вечара — чорны і белы, то запінкі не павінны быць безгустоўна-яркімі. Ідэальныя колеры — серабро, золата ў спалучэнні з нияркімі камянямі. Калі цалкам з металу, то не бліскучыя, а быццам бы пакрытыя плацінай, як бы пацямнелыя ад часу.

■ ***Засцежка для гальштука*** — тыя ж патрабаванні што і да запінак: гармонія па колеру з касцюмам, дзелавым або вячэрнім. Аб'яднаць у адным касцюме запінкі і засцежку для гальштука можна толькі ў тым выпадку, калі гэта камплект. Ва ўсіх астатніх выпадках лепш спыніцца на нечым адным, бо запінкі і засцежку, зробленыя з розных матэрыялаў, у адзіны ансамбль аб'яднаць немагчыма.

■ ***Хустачка,*** якую ўстаўляюць у кішэню-лістачку, мае права на існаванне і ў вячэрнім, і ў дзелавым касцюме. Яна можа быць зроблена з тканіны гальштука або складаць прыемны воку кантраст з ім: калі гальштук з малюнкам, то хустачка павінна быць гладкай і да т.п.

■ ***Кашнэ*** — павінны спалучацца па колеру з паліто і касцюмам адначасова. У гэтым сезоне модныя нияркія тоны — прыглушаныя сіні і зялёны, вішнёвы, адценні карычневага, дробная і сярэдняя клетка з больш яркай паласой (жоўтай, чырвонай). Кашнэ з геаметрычным малюнкам ужо адышлі ў гісторыю. Неактуальныя і шаўковыя кашнэ, найперш сумесь махеру з кашмірам, шэрсці з кашмірам, крэпавая шэрсць, фланель.

■ ***Пальчаткі*** — толькі скураныя або камбінацыя скуры з трыкатажам. Абавязкова павінны спалучацца з абуткам і гарманіраваць па тону з паліто: сіняе або шэрае паліто спалучаецца толькі з чорнымі пальчаткамі, карычневая або зялёная гама патрабуе пальчатак у карычневых тонах.

## РЫБАЛОВУ-АМАТАРУ

# Ручка з пенапласту

Вырабіць ручку для вудзільна можна так. У слоік з ацэтонам закладваюць адпаведнага памеру кавалак пенапласту. Праз 10—15 хвілін яго размінаюць, а вязкую масу, якая ўтварылася, накладваюць на камель вудзільна і абгортваюць ізаляцыйнай стужкай. Праз двое сутак ручку апрацоўваюць наждачнай паперай.



# Ракаў чакаюць грашовыя паступленні, Шаляў, наадварот, траты...

***УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ***

Сілу характару і волю да перамогі трэба будзе праявіць на рабоце КАЗЯРОГАМ. Калі ў тайным саперніцтве з калегамі перамога застанецца не за вамі, не губляйце ўпэўненасці ў сваіх сілах і не падайце духам. Цяпер самы час падумаць пра новую работу. Прадстаўніцам слабага полу рэкамендуецца захоўваць гранічную ўважлівасць у адносінах з прадаўцамі. На асабістым фронце ўсё выдатна. Не засмучайцеся, калі мужы, што збіліся з ног 8 сакавіка, адчуюць стомленасць. Гэта толькі часовы ўплыў прыродных катаклізмаў.

ВАДАЛЕЯМ зоркі раяць на час забыцца пра справы, партнёраў і кантракты. Цяпер усе вашы намаганні марныя. Непрадбачаныя абставіны прымусяць вас адмовіцца ад замежнага турнэ. Аднак усё кампенсуецца дома сярод блізкіх людзей. Менавіта тут вы знойдзеце невычарпальную крыніцу для аднаўлення жыццёвай энергіі.

РЫБАМ настойліва рэкамендуецца не слухаць парад збоку ў дачыненні да камерцыйных спраў. Дзейнічайце на ўласныя страх і рызыку, прымайце рашэнні аператыўна. Маладым пажадана пакінуць убаку пачуцці і цалкам спадзявацца на розум. Замужнім жанчынам трэба не ігнараваць скаргі на здароўе сваіх мужоў. Калі звярнуцца да ўрача неадкладна, дык вы пазбегнеце ўскладненняў.

Цудоўны ў дзелавых адносінах тыдзень чакае АВЕНАЎ. Трэба прымаць усе прапановы аб фінансаванні і перамене месца працы, нават калі ўмовы не абяцаюць выгады для вас. Навучэнцам пажадана сесці за падручнікі, інакш к канцу навучальнага года вы прыйдзеце з дрэннымі вынікамі. Напружаная атмасфера будзе захоўвацца ў сям'і. Асабістыя праблемы будуць вымушаць вас абстрагавацца ад сваякоў.

ЦЯЛЬЦАМ неабходна прысвяціць час афармленню сваёй падатковай дэкларацыі, інакш сустрэча з дзяржінспектарамі непазбежная. Нейкі нядобразычлівец паспрабуе настроіць супраць вас членаў вашай сям'і. Аднак такія спробы марныя, бо блізкія людзі заўсёды будуць стаяць на варце вашых інтарэсаў. У тых, хто страціў упэўненасць у сабе, будзе ўдалы выпадак вырасці ва ўласных вачах. Тым, хто выношвае планы аб працяглай замежнай паездцы, неабходна трымаць усё ў сакрэце.

БЛІЗНЯТАМ зоркі раяць не надаваць значэння часовым непрыемнасцям на працы. Вас чакае цудоўная будучыня, таму не трацьце душэўныя сілы марна, а сканцэнтруйцеся на планаванні. Дзяржслужачыя, працоўныя правы якіх, як ім здаецца, былі ўшчэмленыя, ні ў якім разе не павінны раздуваць з гэтага скандал. Канфлікт з начальствам — не лепшы спосаб вырашэння праблем. Куды больш неабходна ўдзяліць увагу сям'і.

Значныя грашовыя паступленні чакаюць РАКАЎ. Паспяховай будзе і дзелавая паездка ў іншую краіну. Не трэба звяртаць увагі на затраты, таму што сума падпісанага кантракта перасягне ўсе вашы чаканні. Вялікія змяненні падрыхтаваў лёс у сям'і, адно з падрослых дзяцей атрымае прапанову аб вучобе за мяжой.

Адсутнасць інтарэсу да надакучлыўшай работы прымусіць ІЛЬВОЎ накіравацца ў небяспечнае падарожжа па бурных водах прыватнага прадпрымальніцтва. Тыя, хто шукае работу, атрымаюць доўгачаканы шанц. Спрыяльным будзе лёс і да тых, хто спыніць свой выбар на ніве турызму, рэкламы і друку. Хатнія гаспадыні атрымаюць нарэшце магчымасць змяніць увесь стары кухонны посуд. Здароўю нічога не пагражае, калі забыцца пра дыеты.

ДЗЕВАМ неабходна падлічыць усе растраты, інакш ваша крэдытаздольнасць спыніцца на нулі. Вам таксама трэба будзе прыняць важнае рашэнне, якое можа змяніць усё жыццё. Памятайце, любы выбар будзе ўдалы. У асабістым плане вас чакае атрыманне дывідэндаў з вялікіх сродкаў, затрачаных на забавы і задавальненні. Прыемныя імгненні істотна папоўняць багаж добрых успамінаў.

Семінары, сходы і канферэнцыі адцягнуць ШАЛЯЎ ад руціны кабінетнай працы. Вам давядзецца пайсці на немінучыя траты дзеля захавання сямейнай ідыліі. Жанчыны нарэшце абновяць свой запас каштоўнасцяў, зменяць абстаноўку дома і павесяляцца ад душы. Не сумуйце, калі старая любоўная сувязь скончыцца. Своечасовае суцяшэнне прыйдзе ад суседа па вуліцы.

СКАРПІЁНЫ атрымаюць фінансавую свабоду пасля паспяховага завяршэння дзелавой аперацыі. Аднак з новымі капіталаўкладаннямі і аплатай даўгоў давядзецца пачакаць. Некаторыя зоймуць значнае становішча ва ўрадавых органах. Зоркі спрыяюць тым, хто адважыцца ўзяць шлюб, а «мядовы месяц» лепш правесці ў замежным турнэ.

Ворагі на рабоце паспрабуюць скампраметаваць прафесійныя здольнасці СТРАЛЬЦОЎ. Пажадана прыглядзецца і да стану сваіх добразычліўцаў, сярод якіх можа апынуцца тайны вораг. Лепшая тактыка — гэта не паказваць выгляду і не ўступаць у канфрантацыю. Фінансавыя пазіцыі яшчэ больш стабілізуюцца. Шмат увагі трэба ўдзяліць любімым людзям.

**Кар. ІТАР-ТАСС Аляксей КАЧАЛІН.**

*Дэлі.*

## ***ВІНШАВАННІ***

Сардэчна віншуем з 60-годдзем дарагога татачку і дзядулю **Франца Віктаравіча ПАСТАРНАКА** з в. Навасёлкі Смаргонскага раёна. Жадаем здароўя, шчасця, доўгіх гадоў жыцця.

**Дачка, зяць, унукі** г. Смаргонь.

Лекара акушэра-гінеколага паліклінікі № 3 г. Мазыра **Ларысу Уладзіміраўну КОРКУЦЬ** віншуем з юбілеем. У дзень юбілею, у светлае свята жадаем здароўя і шчасця багата.

**Сям'я Арсеня Коркуця.**

Шчыра віншуем з днём нараджэння любую **Леаніту Іванаўну РЭКЕЦЬ.** Жадаем моцнага здароўя, радасці, дабрабыту і шчасця.

**Муж, дзеці, унучкі** са Скідаля, Гродна і Ліды.

## САКРЭТЫ КУХНІ

# Рыбкі захацелася...

**Аб карысці і пажыўнасці страў з рыбы вядома ўсім. Між тым гаспадыні даволі рэдка ўключаюць яе ў сямейнае меню. Згодны, клопатаў з ёю больш, чым з кавалкам мяса: прыйдзецца пачысціць, выпатрашыць, выразаць зябры, плаўнікі, ды і «водар» на кухні, калі гатуюць рыбу, не вельмі прыемны... Але, далібог, гэты дыетычны прадукт, багаты бялкамі, але бедны калорыямі, варты таго, каб крыху папрацаваць. Таму давайце аб'явім «рыбны дзень» і прыгатуем што-небудзь смачнае з рыбы.**

Самая карысная рыба — гэта траска. У марожаным выглядзе яе можна купіць амаль усюды. Адно дрэнна, яна крыху сухаватая, але справа гэта папраўная: трэба толькі не пашкадаваць алею.

Вось, напрыклад, самыя простыя стравы.

### ТРАСКА З ГРЭНКАМІ

Адварваем рыбу кавалкам, кладзём у глыбокую патэльню, змазаную алеем, рады рыбы перакладаем радамі грэнак, асобна абсмажаных у алеі, і заліваем смятанай, узбітай з яечнымі жаўткамі *(на 1 кг рыбы — 1/2 белага батона, 2 шклянкі смятаны, 2-3 жаўткі, 2-3 ст. лыжкі алею).* Запякаем у духоўцы хвілін 5—10.

### КАТЛЕТЫ З ТРАСКІ НАТУРАЛЬНЫЯ

Філе траскі рэжам на кавалкі, выціраем іх сурвэткай, акунаем ва ўзбітае яйка, затым у паніровачныя сухары, солім, перчым і абсмажваем на масле з усіх бакоў. Пасыпаем пятрушкай, апырскваем лімонным сокам, падаём на гарачым блюдзе.

### СЕЧАНЫЯ КАТЛЕТЫ

Філе траскі даводзім да кіпення, ваду зліваем, рыбу прапускаем праз мясарубку разам з адваранай бульбай, дабаўляем яйкі, дробна нарэзаную цыбулю. Перамешваем фарш, фармуем катлеты, абвальваем іх у сухарах і дасмажваем на алеі.

*На 1 кг траскі — 0,5 кг бульбы, 1-2 яйкі, 2-3 лыжкі алею, цыбуля, перац, соль.*

### САТЭ З ТРАСКІ

Растопліваем у каструлі 100 г масла, кладзём у яго падрыхтаваныя кавалкі рыбы, пятрушку, сельдэрэй, лаўровы лісток, соль, перац, апырскваем лімонным сокам. Накрываем каструлю накрыўкай і тушым рыбу на слабым агні каля гадзіны. Затым кавалкі рыбы вымаем, выкладваем на блюда, а ў соус дабаўляем крыху мукі, даводзім да кіпення. Заліваем рыбу соусам, пасыпаем зяленівам.

# Гаспадыні на заметку

❑ Чысціце рыбу ад хваста да галавы, апусціўшы яе ў ваду, тады луска не будзе разлятацца ва ўсе бакі.

❑ Каб пазбавіцца ад спецыфічнага паху, варыце рыбу ў вадзе з агурочным расолам (паўшклянкі расолу на літр вады) і духмянай агароднінай. Калі папярэдне патрымаць яе ў малацэ, пах зусім знікне, а рыба стане больш мяккай і сакавітай.

❑ Калі смажыце рыбу, пакладзіце ў патэльню ачышчаную і парэзаную на лустачкі бульбіну і крыху солі — і паху не будзе, і алей не стане распырсквацца.

❑ Каб палепшыць смак камбалы, траскі, шчупака, дабаўце маянэз — прыкладна дзесятую частку ад вагі рыбы. Ён, дарэчы, намнога палепшыць і смак соусу.

❑ Вы купілі кальмара? Яго трэба адварыць вялікімі кавалкамі, апускаючы ў кіпячую салёную ваду, у якую пакладзены кроп і пятрушка. Але не пераварыце: дастаткова 4-5 хвілін!



## ІДЭІ МАЙСТРУ

# Стаўце ў вугал!

**Вельмі хочацца, каб кожны метр жылой плошчы быў выкарыстаны рацыянальна, з толкам. Вырашыць гэту праблему дапамогуць самаробныя «вугалкі».**




Мадэлі вуглавых этажэрак, стэлажоў, паліц і сталоў, якія прапануем вашай увазе, будуць дарэчы як у жылым пакоі, так і на кухні. На іх можна паставіць кнігі, посуд, разнастайныя дробныя прадметы або рабочыя інструменты. У залежнасці ад месца размяшчэння можна выкарыстаць розныя віды апрацоўкі.

На **мал. 1** вы бачыце вуглавую трохвугольную этажэрку. Для яе вырабу спатрэбяцца: вертыкальны брус памерам 1500x50x50 мм, дзве бакавыя дошкі — 1630x100x25 мм, рэйкі для мацавання вертыкальнага і нахільных элементаў, якія служаць і апорай для палічак трохвугольнай формы. Сячэнне рэек — 25x25 мм, даўжыня 200, 300, 450, 600 мм. У першую чаргу неабходна зрабіць каркас, пасля гэтага размяшчаюць паліцы. Загатоўкі перад зборкай неабходна старанна апрацаваць і пакрыць бясколерным лакам для таго, каб захаваць натуральны ўзор драўніны. Калі этажэрка ўстанаўліваецца ў дзіцячым пакоі, яе можна пафарбаваць яркай эмаллю.




Пры дапамозе чарцяжоў нескладана змайстраваць і вуглавую этажэрку, паказаную на **мал. 2.**

Прыклад рацыянальнага і зручнага запаўнення вуглоў дадзены на **мал. 3.** Вуглавыя паліцы з ламінiраванай або фанераванай драўнянастружкавай пліты размяшчаюцца на брусках або рэйках, прымацаваных да сцяны на любой неабходнай адлегласці. Такія паліцы можна вырабіць з тоўстага шкла, выкарыстаўшы замест драўляных брускоў металічныя ці пластмасавыя вугалкі. На малюнку 3 паказаны варыянт вуглавога стала з адной або некалькімі паліцамі. Пры гэтым не абавязкова, каб паліцы паўтаралі канфігурацыю і памеры стальніцы.



